ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXX, № 286 Нью Ёрк — люты — 1981 — February — New York Vol. XXX. № 286

*БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ*

*— Галоўная Ўправа —*

*— Управа Акругі Нью Ёрк — Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі —*

*АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*

*запрашаюць на*

*УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 63-ІХ УГОДКАЎ*

АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ
АКТАМ 25 САКАВІКА 1918

*што адбудзецца ў*

*НЯДЗЕЛЮ, 29-га САКАВІКА 1981.*

*У ПРАГРАМЕ:*

*10-ая гадз. ураньні: Урачыстая Божая Служба ў Катэдральным Саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык Авэню ў Брукліне)*

*1-ая гадз. папаўдні: Урачыстая Бяседа ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру пры 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне.*

## МАДРЫДЗКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Й БЕЛАРУСЬ

Дваццаць сёмага студзеня сёлета пачалася другая фаза Мадрыдзкае канфэрэнцыі (першая фаза трывала ад 11 лістапада да 19 сьнежня 1980 г.). Мадрыдзкая канфэрэнцыя (як і ейная папярэдніца Белградзкая канфэрэнцыя, што адбылася ў 1977-78 гадох) прысьвечаная агляду працэсу ўжыцьцяўляньня Гэльсынкаўскіх пагадненьняў, падпісаных у 1975 г. 33-ма дзяржавамі Эўропы, у тым ліку й Савецкім Саюзам ,ды ЗША і Канадай.

Заходнія дэлегацыі на Мадрыдзкай канфэрэнцыі занялі цьвярдзейшую пазыцыю, як у Белградзе, і выявілі больш адзінства, у выніку галоўна савецкае акупацыі Афганістану ды не бяз сувязі із станам у Польшчы, дзе пагроза савецкае збройнае інтэрвэнцыі яшчэ далёка ня мінула.

Дэлегацыя СССР на Мадрыдзкай канфэрэнцыі, як сказаў кіраўнік амэрыканскае дэлегацыі ў Мадрыдзе Макс Кампэлман, не спадзявалася гэткага адзінства з боку Захаду. На пытаньне карэспандэнта часапісу „Ю Эс Ньюз энд Уорлд Рыпорт" (за 9 лютага 1981 г.), ці слоўныя атакі на Мадрыдзкай канфэрэнцыі маюць якое-небудзь практычнае значаньне, сп. Кампэлман сказаў, што маюць — ён у гэтым цьвёрда пераканаңы. Савецкі Саюз, сказаў кіраўнік амэрыканскае дэлегацыі, не самавыстарчальны ў сьвеце, Крэмль патрабуе павагі да сябе. Масква хоча мець ня толькі эканамічную ці палітычную стабільнасьць, а і ўплывы ў сьвеце, але крытыка Савецкага Саюзу ў Мадрыдзе паказвае яго ў вадмоўным сьвятле.

У складзе амэрыканскае ўрадавае дэлегацыі ў Мадрыдзе і прадстаўніцтваў няўрадавых арганізацыяў былі й ёсьць асобы добра паінфармаваныя пра стан людзкіх і нацыянальных правоў на Беларусі.

Ад Беларусаў і пра Беларусаў часта гаварыў на канфэрэнцыі сп. Мірон Смародзкі, адвакат украінскага паходжаньня, які ўваходзіў у склад афіцыйнае амэрыканскае дэлегацыі. Сп. Смародзкі — блізкі супрацоўнік і добры прыяцель беларускае групы ў Нью Джэрзі. Вярнуўшыся ў часе перапынку канфэрэнцыі ў ЗША ды выступаўшы ў друку й на тэлебачаньні зь інфармацыяй пра дзейнасьць амэрыканскае дэлегацыі ў Мадрыдзе, ён часта згадваў Беларусь ды жахлівую русыфікацыю, якую яна цяпер перажывае. У інтэрвію з намі сп. Мірон Смародзкі сказаў:

„Нашая дэлегацыя йшчэ да канфэрэнцыі шмат папрацавала, зьбіраючы матар'ялы аб стане ў нацыянальных рэспубліках СССР, аб русыфікацыі, фактах пагвалтаваньня правоў чалавека й г. д.. Цiраз і мне самому даводзілася гутарыць пра Беларусь у Нью Джэрзі, у Вашынгтоне у Белым Доме з прадстаўнікамі Беларусаў. Апрача гэтага, амэрыканская дэлегацыя дастала ад беларускіх арганізацыяў колькі мэмарандумаў пра стан правоў на Беларусі. У Мадрыдзе мы не ахутвалі фактаў у бавоўну й дыпламатычную мову. І для Саветаў гэта было неспадзеўкай. Яны, відаць, не чакалі, што Амэрыканцы будуць гэтак дакладна азнаёмленыя із станам справаў у нацыянальных рэспубліках".

Іншым прадстаўніком у Мадрыдзе, у складзе міжрэлігійнае дэлегацыі, быў прафэсар Ньюёркаўскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту Томас Бэрд, які ў сваіх выступленьнях ды кантактах часта гаварыў пра Беларусь. Цiраз згадвала Беларусь у сваіх аналізах стану ў Савецкім Саюзе і кангрэсмэнка зь Нью Джэрзі Мілісэнт Фэнўік, якая ўваходзіла ў склад афіцыйнае амэрыканскае дэлегацыі.

Мэмарыялы й дакумэнты на рукі заходніх дэлегацыяў у Мадрыдзе былі высланыя Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, Камітэтам Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі, Беларускім Кангрэсавым Камітэтам, Беларускім Вызвольным Фронтам, Канфэрэнцыяй Вольных Беларусаў ды іншымі.

Нагадваем яшчэ раз, што вельмі важна й надалей зьбіраць усе факты пра гвалтаваньне правоў чалавека на Беларусі, русыфікацыю, перасьлед рэлігіі ды паведамляць пра іх урадавым дэлегацыям заходніх дзяржаваў, незалежна ад таго, ці ў дадзены мамэнт адбываецца канфэрэнцыя, прысьвечаная Гэльсынкаўскім пагадненьням, ці не. Канфэрэнцыі гэткія пэрыядычныя, яны маюць адбывацца не радзей як што тры гады. Форум гэтых канфэрэнцыяў мы мусім і надалей выкарыстоўваць для абароны ахвяраў камуністычнага таталітарызму й маскоўскага імпэрыялізму на Беларусі.

## МЭМАРАНДУМ У ВАБАРОНУ І. КАРЭЙШЫ

Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выслалі 11 лютага сёлета амэрыканскай урадавай Камісіі да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе (тэй, якая займаецца пытаньнямі ўжыцьцяўляньня Гэльсынкаўскіх пагадненьняў) Мэмарандум № 2 з новымі матар'яламі пра перасьлед Івана Карэйшы, жыхара вёскі Высокае Каханоўскага сельсавету Талачынскага раёну.

Іван Карэйша за ягоныя настойлівыя пратэсты да найвышэйшых органаў улады ў Маскве супраць несправядлівага выключэньня яго з калгасу, засуджаны на год канцлягеру. Пра гэта стала ведама зь Інфармацыйнага Бюлетэню маскоўскае неафіцыйнае Працоўнае Камісіі для Расьсьледваньня Злаўжываньняў Псыхіятрыяй у Палітычных Мэтах. Іван Карэйша быў арыштаваны ў травені летась.

Неўзабаве па ягоным арышце, 22 травеня 1980 г. сябра вышэй згаданае маскоўскае неафіцыйнае Камісіі Фэлікс Сер態броў напісаў у віцебскі псыхіятрычны шпіталь галоўнаму лекару Зорку ліста, заявіўшы, што калі Іван Карэйша, псыхічна здаровы чалавек, будзе паўторна пасаджаны ў псыхіятрычны шпіталь (Карэйшу двойчы да таго ўжо трымалі ў віцебскай псыхушцы), дык Камісія будзе разглядаць гэта як акт злаўжываньня псыхіятрыяй у палітычных рэпрэсійных мэтах.

„Працоўная Камісія, — казалася ў лісьце, — зварачае Вашую ўвагу на рэзалюцыю Сусьветнага кангрэсу ў 1977 годзе ў Ганалюлю, які асудзіў падобную практыку выкарыстоўваньня псыхіятрыі, і заклікае Вас больш не парушаць гэтае рэзалюцыі".

Карэйшу гэтым разам у псыхушку не пасадзілі, але засудзілі на год лягеру прымусовае працы. Суд над ім адбыўся ў жнівені 1980 году. Свой тэрмін Іван Карэйша адбывае пад гэткім адрысам: „учр. УЖ-15/15 „М", п/о Вейно, г. Магілёў, БССР".

Пра ўсё гэта напісана ў Мэмарандуме № 2.

## НА ІНАУГУРАЦЫІ ПРЭЗЫДЭНТА РЭЙГАНА

Урачыстасьць злажэньня прысягі Прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Рональдам Рэйганам адбылася, як гэтага вымагае канстытуцыя, 20 студзеня (аўторак) 1981 году. Але сьвяткаваньні, зьвязаныя зь пераняцьцём улады 40-ым прэзыдэнтам ЗША, пачаліся йшчэ ў сыботу 17-га студзеня: выстаўкі ,балі, прыняцьці, адмысловыя цырымоніі ўшанаваньня заслугаў і да гэтага падобнае.

У трох пунктах Вашынгтону былі наладжаныя з гэтай нагоды выстаўкі, прысьвечаныя ўдзелу нацыянальных (этнічных) групаў Амэрыкі ў выбарнай перамозе Рэспубліканцаў. На аднэй зь іх быў паказаны й удзел Амэрыканцаў беларускага паходжаньня: значкі „Беларусы-Амэрыканцы за Рэйгана-Буша", экзэмпляры беларускае перадвыбарнае літаратуры, названыя беларускія рэспубліканскія клюбы ў розных штатах.

Трэба адзначыць тут асабліва дзейнасьць гэткіх клюбаў: у Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі (сп.сп. Міхась Бахар, Віталі Цярпіцкі, Юрка Наумчык, Сяргей Касьцюк), у штаце Агаё (кіраўнікі: сп.сп. Янка Раковіч, Кастусь Калоша, Юрка Каляда ,сп-ня Тацьцяна Кананчук, сп. сп. Андрэй Стрэчань, Сяргей Карнiловіч ды інш.), у штаце Мэрылэнд (сп-тва Васіль і Далёрэз Мельяновічы), у штаце Каліфорнія (сп. сп. Язэп Арцюх, Часлаў Найдзюк, Кастусь Уортс), у штаце Мішыгэн (сп. сп. Васіль Пляскач, Мікола Прускі) ды клюбы ў іншых штатах, якія, хоць і ня прыслалі ў Вашынгтон праграмаў свае дзейнасьці ,але ў выбарах бралі ўдзел як беларуска-рэспубліканскія клюбы.

На балі, што адбыўся ў нядзелю 18-га ў гатэлі Тафта насупраць Белага Дому, прадстаўнікамі ад беларуска-амэрыканскае грамады былі сп-тва В. і Д. Мельяновічы. Сп. Мельяновіч меў нагоду гутарыць зь некаторымі міністрамі кабінэту прэз. Рэйгана.

На ўрачыстасьць злажэньня прысягі Прэзыдэнтам Рэйганам і Віцэ-Прэзыдэнтам Бушам) быў запрошаны др. Вітаўт Кіпель.

Беларускія прадстаўнікі былі запрошаныя на гэтак званыя балі-спадарожнікі, што адбыліся ў тым самым часе ў штатах: Агаё (дэлегацыя на чале із сп-няй Т. Кананчук і сп. Я. Раковічам, які ўваходзіў у склад інаўгурацыйнага камітэту Агаё), Нью Джэрзі, Нью Ёрк, Ілінoй, Дэлаўэр, Пэнсыльванія, Каліфорнія й Мэрылэнд.

**В. Зубкоўскі**

## СПАДЧЫНА БАЦЬКОЎ: "АГЛЕДЗІНЫ"

**(ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Я. КУПАЛЫ Й Я. КОЛАСА)**

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны...
Я. Купала, Спадчына
(верш, 1918 г.)

Беларусь — гэта ідэя, гэта спадчына бацькоў...
Я. Купала, Привет белорусскому слову! (арт., 1942 г.; Публіцыстыка, Мн., 1972, б. 110)

**Прымат духовага элемэнту**

У багатай інтэлектуальнай спадчыне беларускага народу, створанай у вялікай меры ў вабставінах варожае аблогі, знаходзяцца крыніцы паглыбленьня духовае моцы ў нашым далейшым змаганьні за людзкую й нацыянальную годнасьць. Крыніцы гэтыя, аднак, раськіваныя, пакрытыя бросьняю хвальшу. Казённыя сьцежкі папракладаныя ў іншыя бакі. Беларуская думка ў палоне чужых цытатаў.

Працэс занявольваньня народу пачынаецца ад фізычнага гвалту, а канчаецца гвалтам духовым. „Зь ярмом даў і песьню чужынец" — вешча перасьцерагаў свой паняволены народ Пясьняр Забранага Краю ў вершы „Казка аб песьні" (які царская цэнзура прапусьціла, а савецкая ўсё йшчэ забараняе).

Працэс разьнявольваньня йдзе ад акту духовага да фізычнага. „Ня нізкі ўзровень культуры выклікае ейнае падпарадкаваньне, а наадварот, падпарадкаваньне выклікае застой" — сьцьвердзілі блізу стагодзьдзе таму беларускія студэнты ў Пецярбурзе, выдаўцы часапісу „Гоман".

Узаемасувязь духовае няволі зь няволяй фізычнай, прымат духовага элемэнту ў некаторых абставінах змаганьня, добра разумелі і гоманаўцы і нашаніўцы, калі ставілі на першы плян рэгабілітацыю й разьвіцьцё народнае душы й нацыянальнае культуры. Гэтак-жа добра разумеюць гэта й сучасныя матар'ялістычныя гаспадары Беларусі, што робяць гэткі ўпор на культурна-ідэйны аспэкт, на русыфікацыю. І ня дзіва: у азначэньні самога зьместу „Беларусі" ляжыць ідэя, праявы духу, пакінутыя прашчурамі ў культурна-творчых набытках. „Беларусь — не геаграфічнае паняцьце, Беларусь — гэта сьвет, гэта ідэя, гэта спадчына нашых бацькоў..." — нагадваў яшчэ раз свайму народу Янка Купала ў годзе сьмяротнае ваеннае небясьпекі ды напярэдадні свае й дагэтуль нявысьветленае сьмерці ў Маскве ў 1942 годзе. (Гл. Я. Купала, Публіцыстыка, Мінск, 1972, б. 110).

**Слова, выкінутае зь песьні**

„Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына", пяюць сяньня „Песьняры" купалаўскія радкі. Але-ж вякі, ведама, пакінулі ў спадчыну ня толькі „бусла клёкат" ды „крык вароніных грамад", пра якія згадвае песьня, але пакінулі, як канцэптуальнае завяршэньне ўсяго, паняцьце „Старонкі Роднае", якое павінна быць расшыфраванае, раскрытае і ўсьведамленае ў кантэксьце „прадзедаў" і „вякоў". Пра гэта якраз клапаціўся Янка Купала, калі пісаў зваротку таго самага свайго вершу, якое цяпер не дазволілі „Песьняром" улучыць у выконваную імі купалаўскую песьню:

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён ня зьедзены.

Мінуўшчына нашая — і нашая сучаснасьць! — багатыя ня толькі на пчолаў, але й на трутняў.

На прыклад пчолаў — як яны „бароняць вульляў сваіх" — паказваў нам яшчэ ў першай палавіне XVI-га стагодзьдзя наш вялікі палачанін Франьцішак Скарына. А народ у сваёй неспасьціжнай мудрасьці сказаў пра тое самае паэтычна й пабеларуску неагрэсыўна: „Кожная сасна свайму бору песьню пяе" (Гл. Беларуская народная творчасьць. Прыказкі і прымаўкі ў 2-х кнігах. Кн. І, Мінск, 1976, б. 290)

Сосны й сасонкі Беларускага Бору штораз выразьней і гучней пяюць свае песьні.

**„Унутраны ўзрыў"**

Валянтына Коўтун і Анатоль Фядосік, рэцэнзуючы ў 1979 годзе кніжку песьняў сваіх паўдзённых суседзяў, „Украінскія народныя песьні ў запісах Ёсіпа й Хведара Бадзянскіх" (Кіеў, 1978 г.), адзначылі тое, што й да іх адзначалася ў беларускім савецкім друку: „Апошнім часам і ў нас, на Беларусі, і ў нашых братніх рэспубліках назіраецца своеасаблівы 'ўнутраны' ўзрыў усеагульнай цікавасьці да культурнай спадчыны народу. Скарбы архіваў, запісы песень, казак, легенд набываюць новае жыцьцё сярод нашых сучасьнікаў" („Літаратура і Мастацтва", 21.XII.1979)

Своеасаблівы гэты „'ўнутраны' ўзрыў" у тым, — пра што Коўтун і Фядосік, калі-б і хацелі, не маглі сказаць выразна — што ён пракладае шлях да „агледзінаў" спадчыны бацькоў — ці скарб ня збрыў дзе проч, ці трутнем ён ня зьедзены.

Каб устанавіць-жа, што збрыло, а што засталося ды што з гэтага трутнямі паедзена, патрэбен Крытэры. Каб ведаць, што ў сяньняшняй спадчыне ад Бацькоў, а што — Траянскі Конь і Дары Данайцаў.

„'Унутраны' ўзрыў усеагульнай цікавасьці да культурнай спадчыны народу" можа адбывацца тольк адначасна з „узрывам" маральным, што ачысьціў-бы, як гром ачышчае паветра, асабістую й калектыўную існасьць чалавека. І выявы гэткага „выбуху" можна распазнаць на духовым абліччы сучаснае Беларусі.

Гэтак, у рэцэньзіі на аповесьць Яўгена Лецкі „Па цаліку" Ўладзімер Юрэвіч адзначае частае ўжываньне цяпер у беларускай літаратуры слова „маральны", у чым Юрэвіч бачыць „адлюстраваньне надзённай патрэбы грамадзтва ўзмацніць чалавечыя (дапоўнім Юрэвіча: і нацыянальныя — Я.З.) асновы жыцьця". („Маладосьць" 1978, № 8, б. 182)

У Лецкавай аповесьці сын робіць выклік бацькавай „абыякавасьці, усёдаравальнасьці тым, хто яшчэ ў нядаўным мінулым зьдзекаваўся з чалавека". На бацькава пытаньне „То чаму табе канешне за гэтую праўду ваяваць?" — сын — праўнік, адвакат — адказвае: „А перш за ўсё дзеля таго, каб сябе чалавекам адчуваць!" „Я, — заяўляе прадстаўнік малодшага пакаленьня, — чалавекам быць хачу, такім, каб ня крывіць душою ні перад кім, а найперш — перад самым сабою!.. Каб можна было адчуваць, што ты ня нейкая гніда, якая вечна ўсяго баіцца і перад кожным сябе прыніжае, а чалавек са сваімі перакананьнямі! Ад гэтых перакананьняў, хай сабе рэжуць мяне, дык я ўсё роўна не адступлюся". (Тамсама)

Гэтак вось мы — сьветкамі сымптомаў Вялікага Выбуху, зь якога запачаткоўваецца маральны Сусьветня быць „гнідаю". Тое, што мучыла й Янку Купалу на пачатку 1920-х гадоў, калі ён (у вершы „Перад будучыняй", забароненым сяньня на Беларусі) глядзеў на душы, паедзеныя трутнем чужапаклонства, і жахаўся ад таго, што бачыў навокала сябе:

Нявольніцтва й жабрацтва
так нас зьела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць,
плюнуць сьмела
Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.

Сяньня, устаючы зь пяску й праціраючы вочы, мы пабачылі, што, як сьцьвердзіў адзін з нашых сучасьнікаў на Беларусі, „не арол нам печань дзяўбе, а верабей з суседзкага даху", а часамі грызуць і свае-ж „гніды"...

(Працяг на 5-ай бач.)

# НА МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАЎЦЫ У ЧЫКАГА

Ужо дваццаць адзін год узапар Беларусы Чыкага бяруць удзел у гэтай міжнароднай імпрэзе. Уклад сілаў і талентаў, каб правесьці свой удзел на высокім узроўні з боку мастацкага ды выклікаць зацікаўленасьць у наведвальнікаў адпаведнай інфармацыяй аб краі, няведамым для шмат каго з наведвальнікаў, быў вялізарны. Але з гэтага гледзішча наш стэнд апраўдаў сваё прызначэньне. А сам удзел у выстаўках стаўся для нас стымулам, бо кажны год трэба было штосьці новае з экспанатаў далажыць ды адпаведна эстэтычна аформіць стэнд, каб ён быў прываблівы для вока наведвальнікаў.

Гэтым разам выстаўка ладзілася 22-24 лістапада 1980 году. Наш стэнд выглядаў цікава сваймі вышыванкамі, дзяружкамі настольнікамі, сурвэткамі ды ручнікамі. Ручнікі, дарэчы на Беларусі заўсёды былі папулярным прадметам дэкарацыйнага мастацтва й адзначаліся багацьцем вузораў, парознаму маляўніча распрацаваных. Адгукнулася на гэтае прыгаство й нашая паэзія вершамі, пакладзенымі на музыку, як пра гэта сьветчыць рэпэртуар славутых „Песьняроў“.

І на нашай выстаўцы ручнікі былі аб'ектам зацікаўленьня: пра іх дакладна распытвалі — значаньне вузораў, тэхніку вышываньня ды падобнае.

А нашая папулярная папрадуха Тэрэса Тарасэвіч, каля якой заўсёды было людна, ахвоча расказвала пра лён ды пра дэталі ягонае апрацоўкі, пры гэтым дэманструючы прадзеньне нітак на традыцыйным беларускім калаўротку. Ня менш папулярнай была й ткальля Кацярына Кайгацсу, што не пасьпявала адказваць на пытаньні аб тэхніцы тканьня, дабору дэсэняў ды значаньні беларускіх калёраў.

І гэтым разам у выстаўцы ўзяў удзел майстар інкрустацыі саломкай сп. Мікола Шуст з Канады, што ўмела ды памайстроўску дэманстраваў сваё мастацтва, узбагаціўшы яго новымі дэталямі, вузорамі, калёрамі, падказанымі сабскім шматгадовым дазнаньнем. Прывёз ён з сабою ладную колькасьць экспанатаў у форме рамак, шкатулак, вярхоў столікаў, альбомаў і г. д.

Інфармацыйны аддзел пры беларускім стэньдзе быў багаты, папоўнены рознымі ведамкамі аб Беларусі, зборнікамі твораў нашых пісьменьнікаў і паэтаў, кніжкамі аб беларускім мастацтве ды інфармацыйнымі лістоўкамі аб Беларусі, выданымі Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага, а таксама мэмарыяламі інфармацыйнага характару, выданымі Беларускім Кангрэсавым Камітэтам, ды іншым даведніцкім матар'ялам.

Наагул публіка цікавілася нашым стэндам, выпытваючы дакладна пра край, ягоныя прыродныя багацьці, кліматычныя ўмовы, культуру й г.д.

Экспанаваліся таксама й лялькі зь лёну ды саломкі, што сваім апрычоным стылем прыцягвалі гледачоў.

**Сп-ня Вера Рамук перадае мэру Чыкага сп-ні Джэйн Бэрн афган-пакрывала, зробленае сп-няй Гэленай Сысой.**

Шмат было й прадметаў дрэваразьбы, спаміж якіх вырозьніваліся сваім валатоўскім выглядам зубры.

Працавала беларуская кухня, зладжаная праваслаўнай парахвіяй сьв. Юр'я, што сваймі смачнымі стравамі задавальняла ахвотнікаў паласавацца й падсілкавацца.

Наведала выстаўку і грамадзкая адміністрацыя гораду Чыкага на чале з мэрам Джэн Бэрн, якая затрымалася даўжэй пры нашым стэньдзе, зацікавіўшыся прадзеньнем і тканьнем. Пры гэтай нагодзе сп. Вера Рамук падарыла мэру Бэрн прыгожы афган-пакрывала, зробленае сп. Гэленай Сысой. Сп-ня Бэрн вельмі ўсьцешылася гэтым неспадзяваным гасьцінцам і дзякавала ад шчырага сэрца. Сваю падзяку яна пераслала таксама пасьля асабістым лістом.

Трэба зацеміць, што выстаўка прайшла памысна ды зрабіла добрае ўражаньне на наведвальнікаў. На гэтым месцы трэба выказаць падзяку ўсім тым, хто спрычыніўся сваім стараньнем да ўдалага правядзеньня нашага ўдзелу — спадарыням і спадаром: Ніку Жызьнеўскаму, кіраўніку выстаўкі, Бяленісам, Ірэне Пануцэвіч, Тэрэсе Тарасэвіч, Кацярыне Кайгацсу, Рамуком, Багданом, Міколу Кучуру, Міхасю Махначу, Гэлене Сысой, Міколу Шусту, Э. Жызьнеўскай і Васілю Пунтусу.

Варта зацеміць, што выстаўку наведаў з суседняга Дэтройту др. Язэп Сажыч, які, дарэчы, часта дзе ахвотна прыяжджае на нашыя імпрэзы ў Чыкага.

**Др. Вітаўт Рамук**

# ПРАФ. ЛЕЎ АКІНШЭВІЧ (1898–1980)

Сёмага лістапада 1980 году ў гор. Гілкрэсьце, прадмесьці Вашынгтону, пасьля цяжкое й працяглае хваробы, памёр шырака ведамы й заслужаны навуковец, праўнік і гісторык, сьв. пам. прафэсар Леў Акіншэвіч. Пахаваны праф. Акіншэвіч 11-га лістапада на ўкраінскіх могілках у Баўнд Бруку ў штаце Нью Джэрзі. Адпявалі Нябожчыка а. Сяргей Напрэль з УАПЦ і а. Іван Бруцкі з БАПЦ у суправаджэньні хораў зь беларускае і ўкраінскае парахвіяў. Апошняя мэлёдыя на паховінах — „Сьпі пад курганам гэрояў“ — прагучэла ў выкананьні беларускіх удзельнікаў пахавальнага абраду.

Сваёй навукова-грамадзкай дзейнасьцяй сьв. пам. Леў Акіншэвіч шмат спрычыніўся да распрацаваньня, абгрунтаваньня ды пашырэньня ідэі незалежнасьці й дзяржаўнасьці беларускага і ўкраінскага народаў ды іхнае ролі ў гістарычным разьвіцьці Усходняе Эўропы.

Нарадзіўся Леў Акіншэвіч 25 студзеня 1898 г. (ст. ст.) у горадзе Пецярбургу. Бацька ягоны, праўнік, працаваў у страхавой кампаніі „Надежда“. Паходзіў бацька Акіншэвіча з Гомельшчыны, дзе ў сяле Стаўбун дзед Лява Акіншэвіча быў сьвятаром. Бабка-ж ягоная з бацькавага боку паходзіла з роду Варонічаў із Старадубшчыны. Акіншэвічава маці была чэскага паходжаньня, з роду Ярош.

Сярэднюю асьвету Л. Акіншэвіч здабываў спачатку ў Кіеўскай гімназіі, а тады — у калегіі Паўла Галагана, таксама ў Кіеве, якую скончыў у 1916 годзе. У гэй-жа калегіі Акіншэвічаў дзед з боку маці, Фёдар Ярош, быў шматгадовым выкладчыкам лацінскае мовы.

У 1916 г. Леў Акіншэвіч залічыўся на Кіеўскі ўнівэрсытэт, які аднак скончыў (юрыдычны факультэт) толькі ў 1922 годзе, бо навуку давялося перапыніць у сувязі з вайсковай службай. Два гады, 1916-1917, Л. Акіншэвіч адслужыў у царскім войску. У 1917 г. ён скончыў Кіеўскае Мікалаеўскае Вайсковае Вучылішча ды ў раньзе прапаршчыка 134-га Драздоўскага палка быў пасланы на румынскі фронт. Пасьля яму давялося таксама служыць у гэтманскім войску, быць пры абароне Кіева, тады — у Дзянікіна, а нарэшце — і ў Чырвонай Арміі.

Па рэвалюцыі, ад пачатку 1920-х гадоў Леў Акіншэвіч жыў у Кіеве, дзе поўнасьцяй аддаўся навуковай працы ды шырокай арганізатарскай дзейнасьці ў Усеўкраінскай Акадэміі Навукаў. Адначасна ён наладжвае лучнасьць зь Менскам ды стаецца сталым супрацоўнікам часапісу „Полымя“, а таксама дараднікам Інбелкульту ў навукова-арганізацыйных справах, а пасьля — Беларускай Акадэміі Навукаў.

У Кіеве спад пяра праф. Акіншэвіча выходзяць важныя працы зь беларускае гісторыі, шмат рэцэнзіяў на беларускія выданьні. Пры ягонай дапамозе шмат якія студэнты-Беларусы ў Кіеве пачынаюць распрацоўваць беларускую гістарычную тэматыку.

Гады 1921-1933 навуковае працы ў Кіеве былі вельмі плённыя для маладога навукоўца. У 1933 годзе праф. Акіншэвіч быў прызначаны на катэдру гісторыі Украіны ў Ніжэнскі Інстытут. Нажаль, ягонай навуковай дзейнасьці ня суджана было разьвівацца далей. Праца над гістарычнай мінуўшчынай Украіны й Беларусі была перапыненая, і праф. Акіншэвіч трапляе, як „клясавы вораг“, у Казахстан.

У Казахстане ён працуе на розных прадпрыёмствах. Вярнуцца назад, ні на Украіну ні на Беларусь, яму ўжо ня было суджана. З Казахстану праф. Акіншэвіч у 1938 г. перабіраецца ў гор. Вязьму, пасьля-ж на некаторы час затрымваецца ў Смаленску, а тады — у Растове-на-Доне.

У верасьні 1941 году яго мабілізуюць у Чырвоную Армію (ці-ж ня гіронія?!), аднак, за пару тыдняў, не пасьпеўшы яшчэ й дастаць уніформы, ён трапляе ў нямецкі палон. Звольнены пад Палтавай з палону, ён пехатой ідзе ў Кіеў, дзе ўладжваецца на адміністрацыйную працу. Неўзабаве аднак з працы быў звольнены, бо ня быў ён украінскага паходжаньня.

З часам, калі ў Кіеве арганізавалася навуковае жыцьцё, праф. Акіншэвіч поўнасьцяй аддаўся навуковай працы, а таксама пачаў распрацоўваць беларускія тэмы.

З надыходам фронту праф. Акіншэвіч накіроўваецца на Захад: праз Галіччыну, у Чэхаславаччыну, а пасьля — у Нямеччыну.

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

# СТ. СТАНКЕВІЧ У ДЗІСЬНЕ

**(Успамін пра Настаўніка)**

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй зьмяшчаем успаміны сп. Аркадзя Качана, што былі перададзены праз радыё ў беларускай радыяпраграме ў Сыднэі ў Аўстраліі 27 студзеня 1981 году.

⁂

Дазвольце мне сяньня, дарагія слухачы, падзяліцца жменькай успамінаў пра сьв. пам. др. Станіслава Станкевіча, гэтага выдатнага чалавека. Зь ягонай сьветлай постацьцю моцна зьвязаная частка майго жыцьця, адна з найважнейшых.

Гэта быў пэрыяд, калі ў маладзечай галаве нарасталі бунтарскія думы й пачыналі крышталізавацца паняцьці нацыянальнае апрычонасьці. Разуменьне беларускасьці прыходзіла спантанічна й зусім нечакана. Вось на гэтыя праявы, што моцна ўскалыхнулі сьветагляд ня толькі мой, але таксама й сотняў вучняў Дзісенскае гімназіі, меў вялікі й вырашальны ўплыў наш настаўнік польскае мовы др. Станіслаў Станкевіч.

Цяпер хачу крыху затрымацца на месцы дзе знаходзілася гімназія, на горадзе Дзісьне. Ляжыць Дзісна на стоку дзьвюх рэкаў: Дзьвіны й Дзісенкі або Дзясны.

Праз Дзісну калісьці праходзілі дружыны полацкіх князёў, намагаючыся стрымаць наступ тэўтонскіх рыцараў зь берагоў Рыскае затокі.

Дзесьці ў канцы 16-га стагодзьдзя на стыку гэтых рэкаў быў пракапаны шырокі роў з боку гораду й зроблены штучны абток. На ім быў пабудаваны абаронны замак. Абток і замак насілі імя караля Батуры.

Непадалёк ад берагу Дзьвіны стаяў стары касьцёл, вельмі цікавы сваёй архітэктурнай формай. На франтоне ягоным засталіся як да апошніх часоў умураваныя шведзкія кулі.

Шмат войнаў перажыў гэты горад. Праз Дзісну йшлі войскі караля Батуры на Полацак і Пскоў. Кажуць, што ў часе Лівонскіх войнаў жаўнеры Вялікага Княства Літоўскага й наёмныя войскі не даставалі заплаты (жолду) на працягу шасьцёх гадоў. Калі-ж прывезьлі ім гэтыя грошы, дык войска гуляла на ўсю, каб надрабіць мінулы пост. Хіба з гэтае прычыны на пяшчаных берагох Дзясны й Дзьвіны можна было лёгка знайсьці шмат сярэбраных манэтаў гэтага пэрыяду.

Вось тут у 1914 годзе Вацлаў Ластоўскі прыдбаў для Беларускага Музэю ў Вільні колькі вельмі рэдкіх скарбаў. Між імі быў сыгнэт і пячатка з трызубам князёў полацкіх Усяслава й Барыса.

Дзісеншчына — гэта вельмі цікавы, шматпакутны край. Нехта з Палякоў, апісваючы яго, сказаў, што, калі-б узяць у руку жменю дзісенскай зямлі ды сьціснуць яе, дык выцеча кропля крыві.

Напрыканцы 1930-х гадоў Дзісна была горадам руінаў. Трапіўшы пасьля Рыскага трактату пад польскую ўладу, гэты горад страціў сваё значаньне як важны гандлёвы цэнтар.

У царскія часы па Дзьвіне плыў лес у Балтыцкае мора. У Рыгу плылі лайбы з таварамі. Горад быў прыстанішчам для плытагонаў і купцоў, якія вялі гандаль зь Нямеччынай, Галяндыяй, Даніяй і Ангельшчынай. На высокім беразе Дзьвіны красаваліся харомы, палацы купцоў, рады рамесьнікаў і гандляроў кіпелі буйным жыцьцём.

За маёй памяцяй усё гэта ператварылася ў руіны. Жыцьцё ледзь тлела толькі хіба таму, што тут быў павятовы горад, стаяў там Корпус Аховы Пагранічча ды была гімназія, разьмешчаная ў будынку старое царскае йшчэ турмы.

Ад Глыбокага да Дзісны было 70 кілямэтраў уздоўж Напалеонаўскага гасьціньца, высаджанага яшчэ за царыцай Кацярынай у чатыры рады бярозамі. Езьдзілася аўтобусам, але гэтая экспэдыцыя была вельмі няпэўная. Ён не заўсёды даваў рады з балотам і калдобінамі ў верасьнёўскае мокрае надвор'е. Часта даводзілася спыніць падарожжа на поўдарозе ў Лужках або ў Каралеўскай Карчме: зламалася вось ці матор перастаў цягнуць, сказаўшы „годзе“. Далей ехалася даўгія гадзіны фурманкамі.

Менш каштоўным і больш пэўным даезд да Дзісны быў з чыгуначнай станцыі Зябкі. Нас вязьлі сяляне. Шкадуючы кволых, малых конікаў, даводзілася йсьці каля вазоў, на якіх ехалі нашы клункі, а ў васабліва гразкіх месцах — падпіхаць вазы, бо пуга не давала жаданых вынікаў.

Вось у такую глуш, дзесьці ў 1938 годзе, за настаўніка польскае мовы быў прызначаны др. Станіслаў Станкевіч. Раней нас вучыла старэйшая дама. Лекцыі ейныя былі вельмі манатонныя й нудныя. Асабліва падчас лекцыяў граматыкі польскае мовы было цяжка высядзець, каб не занурыць носам у лаўку. Дзяўчаты драмалі, цярэбячы косы, а мы, хлопцы, каб не заснуць, забаўляліся тым, што сачылі за прагрэсам панчохаў нашае паляністкі, якія памаленьку спаўзалі ўніз і, дайшоўшы да косткі, скручваліся ў вабаранак. Закладаліся, ці пад канец лекцыі настаўніца заўважыць гэта; здаралася, што, пачырванеўшы, хаваючы ногі за катадру, яна пачне іх нацягваць неўзаметку, ці, схамянуўшыся толькі пры выхадзе з клясы, у дзьвярох войкне ды шпарка папрэ ў прыбіральню.

Трэба прызнацца, што польская мова ніяк ня лезла нам у галаву.

Новы настаўнік др. Станкевіч унёс нешта новае ў гэты прадмет: навет датуль нудная граматыка пачала нас цікавіць і захапляць. Ад яго мы даведаліся пра ўплыў беларускае мовы на польскую за часамі караля Ягайлы й ягоных наступнікаў. Гэта было нешта новае й вельмі хвалюючае. Упяршыню мы пачулі слова „беларускі“. Палякі намагаліся абыходзіць яго, замяняючы словамі „рэгіянальны“ або „тутэйшы“.

На лекцыях літаратуры аўдыторыя сядзела, як зачараваная. Сядзелі ўсе нярухома, як цьвічкі, ды ўслухоўваліся ў словы свайго настаўніка, прагна ловячы ягонае красамоўства. А гаварыць ён умеў і кажнага зацікавіць патрапіў. І ня дзіва, што бальшыня вучняў магла пахваліцца вельмі добрымі вынікамі — ехалі даслоўна на пяцёрках.

Першая асабістая сустрэча з гэтым настаўнікам здарылася ў мяне незаўзабаве пасьля таго, як ён быў прызначаны за кіраўніка школьнае бурсы (інтэрнату).

Пад вечар др. Станкевіч паклікаў мяне зайсьці ў ягоны пакой. Я, як належылася, пастукаў у дзьверы ды, увайшоўшы, сказаў: „Дзень добры, пане профэсожэ“. Тут ён мяне й абцяў: „А ты пабеларуску ня ўмееш гэтага сказаць?“ Зь вялікім зьдзіўленьнем, што будзе далей, ды зь яшчэ большай цікаўнасьцю й хваляваньнем я перайшоў на беларускую мову, на такую, якое мяне навучыла сялянскае жыцьцё. Гэтак пачаліся нашыя частыя сустрэчы й цікавыя гутаркі.

У той час у бурсе ды наагул ува ўсёй гімназіі каля 80% вучняў было беларускага паходжаньня, бальшыня зь іх — дзеці сялянаў. Гэта былі выдатнікі пачаткавых школаў, за навуку якіх у гімназіі плацілі гмінныя ўправы. У іншым выпадку сярэднюю асьвету яны не здабылі-б, бо на 4-6 гэктарах малаўраджайнае зямлі, пры 2-3 кароўках, сына ніяк ня вывучыш. Хлеба й таго на вясну не ставала.

У такі-ж самы спосаб новы настаўнік вёў гутаркі-сустрэчы й зь іншымі вучнямі. Старэйшыя, якім пашчасьціла вучыцца беларускае мовы, пакуль яе Палякі ня выкінулі з пачаткавых школаў, дэклямавалі для нас, маладзейшых, вершы. У памяць урэзаліся імёны Коласа, Купалы, Багдановіча. Вечарамі над шырокай Дзьвіной лунялі беларускія песьні. Давялося навет хоць крыху пазнаёміцца з працай настаўніка: „Первясткі бялорускє в польскєй поэз'і романтычнэй“. Ён тады пісаў другую частку гэтай кнігі. З хваляваньнем мы перачытвалі непадшытыя лісткі ягонае спадчыны.

Кароткае перабываньне др. Ст. Станкевіча у Дзісенскай гімназіі, зрабіла калясальны ўплыў на нас: ён паказаў нам шлях, вывеў нас на дарогу, якое ў хваляваньнях маладосьці мы прагна шукалі, ня ведаючы, у які бок падацца. Ён разбудзіў у нашых сэрцах усё хараство пачуцьцяў, якое пачынаецца ад малака маці ды нарастае з пазнаньнем роднае мовы й навакольнага сьвету роднага краю.

Расьцярушаныя вайнаю па сьвеце, памятаем ягоныя лекцыі-настаўленьні ды ганарымся сваім выдатным Настаўнікам. Яшчэ раз сяньня, калі яго між нас няма ўжо, хочацца ўспомніць ягоныя словы зь першае сустрэчы: „А ты пабеларуску ня ўмееш гэтага сказаць?“ Дык кажу: „Навучыўся, і ўмею, і як мага йду сьледам за Табой, дарагі Настаўнік, іду, наколькі сілаў стае. Дзякуй за навуку!“

**Аркадзь Качан**

## СЛОВЫ ПРЫЗНАНЬНЯ

Перасылаючы ахвяру на выдавецкі фонд „Беларуса“ замест кветак на магілу сьв. пам. Ст. Станкевіча, сп. Васіль Пунтус, старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, разам із спачуваньнем сям'і Нябожчыка, выказаў гэткае прызнаньне:

„Сьмерць забрала з нашага беларускага асяродзьдзя ў Вольным Сьвеце незаменнага й выдатнага рэдактара газэты, грамадзкага дзеяча, літаратуразнаўца, пісьменьніка. Хай Яму будзе лёгкай гэтая вольная зямля Вашынгтону і няхай сьніцца Яму прыгожыя сны аб дарогай нам усім і любімай Маці-Беларусі, а памяць аб Ім будзе вечна жыць у сэрцах нашых“.

# ПРАФ. ЛЕЎ АКІНШЭВІЧ (1898–1980)

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

У 1949 г. праф. Акіншэвіч прыбыў у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Спачатку ў ЗША, як і бальшыня ўсходняэўрапейскіх навукоўцаў з хвалі „Д.П.", працуе на розных фізычных працах, пасьля дастае стыпэндыі ад Усходня-Эўрапейскага Фонду, працуе пры Калюмбійскім Унівэрсытэце, а ў 1954 г. уладжваецца ў Вашынгтоне ў Кангрэсавай Бібліятэцы на пасаду старэйшага каталёгатара ды навукоўца-перакладчыка пры спэцыяльных праектах. У 1969 годзе праф. Акіншэвіч выйшаў з Кангрэсавае Бібліятэкі на пэнсію.

Як адзначыў на памінальнай бяседзе старшыня Украінскага Навуковага Таварыства імя Шаўчэнкі др. Яраслаў Падох, праф. Акіншэвіч вызначаўся вельмі рана як здольны й глыбокі навуковец і дасьледнік. Ягоныя працы 1920-х гадоў, як на ўкраінскія, гэтак і на беларускія тэмы, адразу прыцягвалі да сябе ўвагу. Разьвіваючы гэтую-ж думку на памінальнай бяседзе ў выступленьні ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, аўтар гэтага нэкралёгу адзначыў асабліва той мамэнт, што праф. Леў Акіншэвіч быў запраўды выдатным навукоўцам, беларускім і ўкраінскім. Ягоныя гістарычныя працы зь гісторыі абодвых народаў адзначаюцца глыбінёй і ідэямі дзяржаўніцкага падыходу.

Друкаваная спадчына праф. Акіншэвіча налічвае панад сто працаў, зь іх на тэмы беларусаведныя працаў каля сараку, а на тэмы агульнае гісторыі ды ўкраінскія панад шэсьцьдзесят.

Пабеларуску Л. Акіншэвічам было напісана 27 працаў, паангельску 16, парасейску (у пэрыядзе ссылкі) 4, і паўкраінску 54.

Асабліва важныя працы Нябожчыка зь гісторыі беларускага права пары Вялікага Княства Літоўскага, перш-наперш пра Статуты ВКЛ, працы аб беларускім казацтве ды вельмі важная праца пра цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу, выдрукаваная ў „Запісах" БІНіМ у 1953 годзе. Шмат увагі прысьвяціў праф. Акіншэвіч і беларускай юрыдычнай тэрміналёгіі ды дэмаскаваньню савецкае хвальсыфікацыі мінуўшчыны Беларусі.

Пачынаючы ад 1920-х гадоў, праф. Акіншэвіч быў сталым супрацоўнікам часапісу „Полымя" і ўсіх большых беларускіх навуковых часапісаў, што выходзілі ў Менску. Трэба таксама адзначыць, як пра гэта згадваў і др. Я. Падох, што праф. Акіншэвіч пакінуў па сабе й літаратурны твор — у беларускай мове — „Пракляты стэп", што быў выдрукаваны ў часапісе „Сакавік", што выходзіў у Заходняй Нямеччыне (№ 1/2, 1948 г.) пад псэўданімам Л. Вароніч.

У сваёй навуковай кар'еры праф. Акіншэвіч супрацоўнічаў з гэткімі выдатнымі аўтарытэтамі, як М. Грушэўскі, М. Васіленка, Ул. Пічэта, Ус. Ігнатоўскі, у ЗША Сырыл Блэк ды шмат іншых.

Поруч з навукова-дасьледніцкай працай праф. Акіншэвіч на беларускім адрэзку цімала энэргіі аддаў беларускай арганізацыйна-палітычнай дзейнасьці. Як ён сам пра гэта згадваў у часе гутарак у Вашынгтоне з аўтарам гэтага нэкралёгу й Зорай Кіпель, да беларускага руху ён далучыўся рана ў сваім жыцьці. Яшчэ ў Кіеве ў студэнцкіх часох ён сустрэўся зь беларускімі кніжкамі, якія пакінулі на ім вялікае ўражаньне. Бывшы на румынскім фроньце, ён спатыкаў сьведамых беларускіх вайскавікоў. У 1917-18 гадох у Кіеве ён браў актыўны ўдзел у беларускіх сходах, у людных мітынгах, на якіх часамі бывала да тысячы ўдзельнікаў, пераважна жаўнераў. Беларускае палітычнае жыцьцё гэнымі часамі, успамінаў праф. Акіншэвіч, было вельмі актыўнае і ў Кіеве і ў іншых гарадох Украіны. Шмат спрычынялася да гэтае актыўнасьці абвешчаньне Беларускае Народнае Рэспублікі. Ад таго часу праф. Леў Акіншэвіч трымаў сталую лучнасьць зь беларускім рухам.

Па апошняй вайне, апынуўшыся на эміграцыі ў Заходняй Нямеччыне, у гор. Рэгензбургу, праф. Акіншэвіч часта выступаў з дакладамі пра беларускую гісторыю, рабіў заходы ў справе заснаваньня Беларускага народнага ўнівэрсытэту.

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі праф. Акіншэвіч стаўся адным з заснавальнікаў Беларускага (Крывіцкага) Таварыства імя Ф. Скарыны ды ад самага пачатку быў дзейным сябрам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, уваходзіў у склад управы Інстытуту. Ягоная сувязь зь Інстытутам трывала праз усе далейшыя гады жыцьця ў Амэрыцы. У сталай лучнасьці із старшынём БІНіМ др. В. Тумашам праф. Акіншэвіч ня толькі цікавіўся тым, „як ідуць справы", але й дзейна браў удзел у плянаваньні працы Інстытуту.

Нажаль апошнім часам зь лістоў ягоных было ўжо відаць, што сілы паступова пакідалі яго. Апошняя канфэрэнцыя Інстытуту, прысьвечаная 450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага, была ўжо яму не пад сілу. Канфэрэнцыя сталася працягам тае працы, якую Нябожчык плённа праводзіў у 1920-х гадох. У дакладах канфэрэнцыі ціраз згадвалася ягоная піянэрская праца ў вывучэньні Статутаў ВКЛ як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў Амэрыцы.

Адчуваючы, што сілы пакідаюць яго, праф. Акіншэвіч яшчэ задоўга да сьмерці перадаў сваю бібліятэку Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва. Таксама перадаў ён БІНіМ-у адну копію сваіх успамінаў, напісаных перад сьмерцяй (другая копія ў Навуковым Таварыстве імя Шаўчэнкі).

Сьмерць праф. Лява Акіншэвіча— вялікая страта як для нас, Беларусаў ,гэтак і для Украінцаў. Мы гэтта выказваем глыбокае спачуваньне ўдаве памерлага Веры Аўксеньцеўне ды іхнаму сыну. Ад імя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва складаем таксама падзяку сп-ні Акіншэвіч з сынам, Навуковаму Таварыству імя Шаўчэнкі ды сп-ні Зоі Лапчанка за прысланьня ў памяць Нябожчыка ахвяры ў фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

**Вітаўт Кіпель**

# УСПАМІНАЕЦЦА МНЕ ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Неспадзявана, ня кліканыя, часта ўстаюць перад вачыма абразкі зь Лёс Анджэлесу. Уціскаюцца ў галаву настойліва ды бяруць у палон думкі. І плыве, як на экране, тое непаўторнае, радасна перажытае, ахварбаванае сяньня ціхім сумам. Бо ня змогуць паўтарыцца тыя сонечныя, бястурботныя для мяне дні.

А былі яны ўзапраўды сонечныя (дождж там рэдкі госьць) і людзі там нейкія сонечна-радасныя, відаць, ад здаровага, бязь вільгаці, клімату, з ночнай прахалодаю, з раскошна буйнай зелянінай ды цэлымі палямі красак праз увесь год. Шчодра абдарыла прырода Каліфорнію.

„Прыгожы горад Лёс Анджэлес", скажа зь пераканаrandем той, у каго стане ініцыятывы й наважанасьці пазнаёміцца зь ім бліжэй. А ў нас —мяне й мае спадарожніцы Раісы— іх ставала. І пачалі мы тое знаёмства, карыстаючы дапамогаю сп-тва Юзі й Часлава Найдзюкоў, але часьцей экскурсійным аўтобусам. Бесьперапынна курсуюць яны па гародзе, а ў даўгіх прыпынках даюць нагоду разгледзець ўсё цікавае, характэрнае, выбраць сабе сувэніры ў нязьлічоных магазынах.

Заснаваны горад быў Мэксыканцамі — гэта яны ахрысьцілі яго „анёламі" — і да сяньня шмат хто зь іх не пакінуў роднае зямлі. Спрытнейшыя апанавалі гандаль сувэнірамі. Гэта ўсё вырабы працавітых рук Мэксыканцаў, іхнае народнае мастацтва: тканыя, вышываныя й плеценыя вырабы, мастацкая разьба па дрэву, мэталю, кераміка, шкляныя й крыштальныя вырабы ды шмат іншых рэчаў.

На Старым Месьце (Даўнтаўн) пабудавалі свае квітнеючыя аазісы этнічныя групы: Кітайцы — Кітайгарадок, Японцы — Малое Токіё, ды іншыя. Наведаць Старое Места ўначы — гэта перажыць фантастычную казку ў рэальнасьці.

Але спынімся на часінку ў саборы сьвятое Сафіі (гэта адзіная царква, уключаная ў праграмы ўсіх экскурсіяў). Высьвечаная ў 1952 г., збудаваная яна паводля ўзору антычнага храму Юстыніяна ў Канстантынопалі. Звонку катэдра мае бізантыйскі стыль, у сярэдзіне аднак шмат адступленьняў з увагі на сучасную тэхніку. Мармуравыя сьцены ў трох колерах, далікатныя рэзаныя вузоры ліствы й кветак традыцыйна антычныя. Праз дванаццаць вялікіх, з каляровага шкла, вокнаў урываюцца сонечныя праменьні, адбіваюцца ў мармуры сьценаў ды ствараюць унікальнае гледзішча гульні сьвятла.

Нельга не згадаць тут двух цудоўных абразоў, „Укрыжаваньне" й „Уваскрошаньне", для якіх пабудаваны асобны музэй. Музэй стаіць на заднім пляне мадэрнага могільніка ў выглядзе аднае суцэльнае зялёнае паляны. Абраз „Укрыжаваньне" працы польскага мастака Яна Стыкі, які намаляваў яго зь ініцыятывы й коштам Ігната Падарэўскага (міністра польскага ўраду). Абраз мае 60 мэтраў удаўжкі й блізу 14 мэтраў увышкі. Гэта найбольшы рэлігійны абраз у сьвеце. З Польшчы ён трапіў у Расею, а там быў куплены Амэрыканцамі.

„Уваскрошаньне" — праца амэрыканскага мастака Робэрта Клярка.

У вялізарнай залі, у якой аўдыторыя мяняецца што пару гадзінаў, сядзім і дзівімся, разглядаючы часткі абраза на вялізным экране, а тады і ўвесь аграмадны, адухоўлены піетызмам ды мастацкім натхненьнем, абраз „Укрыжаваньне", а пасьля — „Уваскрошаньне".

Добра мы зрабілі, калі, наведваючы Дысны Лэнд, здаліся на ласку праваднічкі. Сярод тысячаў зьбянтэжаных, разгубленых людзей мы выйшлі пераможцамі. Уважалі толькі, каб ня згубіцца ад свае групы.

Расказаць коратка пра Дысны Лэнд немагчыма — трэба пабачыць самым. Самая багатая фантазія, самыя дзівосныя здарэньні зь ілюстрацыяў казак ці на экране, ілюстрацыі да падарожжаў вакол сьвету — усё ня тое.

Ды ўсё-ж асноўным для нас было спатканьне зь людзьмі — з тымі, зь кім сустрэліся па даўгой ростані, і з тымі, зь кім спаткаліся ўпяршыню.

Даведаліся ад іх пра грамадзкую працу ў Лёс Анджэлесе: пачалася яна тут пару дзесяткоў год таму. Ініцыятыву выяўлялі найчасьцей жанчыны. Гэтак, зь іхнае ініцыятывы паўстаў танцавальны гурток у выніку супрацоўніцтва сп-няў Юзі Найдзюк, Каці Вініцкай, Канановіч (з дому Сак) ды іншых. Сп-ня Канановіч вышыла для групы ўсе народныя касьцюмы ,сп-ня Ю. Найдзюк арганізавала пробы ды трымала кантакт з танцорамі, а сп-ня К. Вініцкая вучыла танцоў, распрацоўвала харэаграфію.

Былі нагоды выступаць, як сябром „Міжнароднае Выстаўкі" падпарадкаванае Міжнароднаму Інстытуту, на міжнародных форумах. Уваходзілі туды славянскія групы, балцкія, афрыканскія, Мэксыканцы, Немцы (Баварцы) ды іншыя.

У пляне дзейнасьці тае-ж арганізацыі былі й супольныя мастацкія выстаўкі. Выдатна рэпрэзэнтаваліся на іх і Беларусы. Усе экспанаты былі аўтэнтычныя, адных тканых дзяружак сп-ня Каця Вініцкая давала на выстаўкі дзесяток. Моладзь выступала з танцамі ды з дэклямацыямі на сьвяткаваньнях 25 Сакавіка, а сьпявачка сп-ня Кэнт, што была ў супольным зь Беларусамі лягеры ў Нямеччыне ды шчыра захаплялася беларускай музыкай, выступала зь беларускай песьняй.

Тры гады таму перастала йснаваць тая арганізацыя, заняпала паволі й грамадзкая праца Беларусаў. Трэба спадзявацца, што схамянуцца ты..-ж жанчыны ды й іншыя прыяцелі народнага мастацтва ды не дадуць канчальна замерці гэткай важнай дзейнасьці на эміграцыі, дзейнасьці для сваіх-жа дзяцей, каб захавалі яны сваю нацыянальную апрычонасьць.

Незабыўнымі засталіся ў памяці гасьцінасьць сп-ні Мяленьцевай, а. пратаярэя Леаніда й матушкі Лідзіі Стаднікавых, а таксама й канцэрт у доме сп-тва Вініцкіх — песьні Данчыка Андрусышына ды выступ экспромтам Каці Вініцкай, а таксама народная песьня, выкананая сп. Чаславам Найдзюком.

Асабліва кранала ўспаміны а. пратаярэя й матушкі Ліды Стаднікавых пра адысэю іхных уцёкаў ад савецкай навалы. Паранены а. архімандрыт і зьнясілены ўшчэнт, кіраваныя інстынктам выжыць, усё ішлі наперад . . . куды вочы глядзяць. Маліліся. І тыя малітвы былі выслуханыя.

Успаміналася свая падобная вандроўка.

У сваіх суродзічаў (а. архімандрыт зь Вільні, матушка із Стаўпеччыны) так пахатняму ўтульна як у родных, праводзілі ў цікавых гутарках-успамінах з бацькаўшчыны свой вольны час.

Усяму бывае канец, гэтак і таму канцэрту ды нашаму побыту паміж суродзічаў Лёс Анджэлесу. На аэрадроме разьвіталіся із сп-няй Кацяй Вініцкай.

Усім тым, дзе гасьцявалі, дзе чуліся як у сябе дома, перасылаем гэтай дарогай нашую, маю й Раісіну, сардэчную падзяку.

**Зінаіда Станкевіч**

# БЕЛАРУСКІ ЦАРКОЎНЫ СЬПЕЎНІК

У выдавецтве Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, пад рэдакцыяй сп. Гаўрыка Піхуры-Пікарды, ад 1979 году выходзяць друкам сшыткі „Беларускага Царкоўнага Сьпеўніка". Пра іх мы згадвалі ўжо ў № 267 нашае газэты (ліпень 1979 г.) і № 272-3 (лістапад-сьнежань 1979 г.). Кажны сшытак прысьвечаны асобнай малітве або напеву (ці варыянтам таго самага напеву). Сшыткі нумараваныя. Усіх сшыткоў ужо выйшла 29 (гэта больш за 129 бачынак, бо некаторыя сшыткі маюць па шэсьць і больш бачынак).

Рэдактар Піхура-Пікарда правёў карпатлівую працу над сьпеўнікам, пазьбіраў усе магчымыя традыцыйныя напевы, а таксама рэлігійную музыку беларускіх кампазытараў: Міколы Равенскага, Дзьмітра Верасава, Міколы Куліковіча, Вячаслава Селяха-Качанскага, а таксама ўлучыў у сьпеўнік некаторыя свае кампазыцыі (прыкладам, „Канцовыя малітвы", сшытак № 13) і свае апрацоўкі.

Сёлета ў сэрыі „Беларускі Царкоўны Сьпеўнік" выйшлі: антыфона „Во царствии Твоем" (М. Равенскага), „Милость мира" (гарм. М. Куліковіча), „Милость мира" (палеская, муз. паводля Селяха-Качанскага), „Херувік" (муз. М. Куліковіча), „Приидите поклонимся (муз. Равенскага), „Милость мира" (муз. Куліковіча), „Екценії" (пасьля Евангельля, супрасьльскі напеў), „Уваходныя малітвы" (трапары, народны напеў, апрацоўка Г. П.).

Сп. Г. Піхура-Пікарда — чалавек ня толькі вялікае энэргіі, але й шмат якіх талентаў. З пладоў ягонае самаахвярнае працы будуць карыстаць зь вялікай удзячнасьцяй і кіраўнікі хораў, і сьпевакі, і веруючыя. Памажы Божа!

Беларускі Царкоўны Спеўнік

## О БОЖА ЎСЕЎЛАДНЫ

Музыка Міколы РАВЕНСКАГА (1886-1953)

Moderato










**Рэлігійная песьня „О, Божа Ўсяўладны" — словы Янкі Золака, музыка Міколы Равенскага — выдадзеная ў сэрыі „Беларускі Царкоўны Сьпеўнік" (дадатак № 1).**

# ЛІСТ З ПОЛЬШЧЫ

Адзін з нашых чытачоў у Польшчы напісаў нам у сьнежні летась ліста, частку якога ніжэй зьмяшчаем:

„Усе Вашыя газэты я ўважліва чытаю й перахоўваю іх. Цешыць мяне найбольш адно, што паміма так доўгага, можна сказаць, часу ад вайны, якая загнала там Вас на другую часьць сьвету, і паміма што за гэты час так многа адыйшло старэйшых людзей на вечны супачынак, а Вашыя арганізацыі растуць і пашыраюць нашыя народныя традыцыі і беларускую культуру, і толькі дзякуючы Вам, эмігрантам, сьвет пазнае Беларусаў і нашую культуру і Беларусь.

„І калі ўжо прыпаў лёс Вам рэпрэзэнтаваць на другой палавіне сьвету нашую Беларусь і яе народ, то мне здаецца, што Вы гэтае заданьне выконваеце вельмі добра і разумна.

„Я моцна перакананы, што Ваша праца і надлюдзкі высілак намарна ня пойдуць і вырасьце зь іх пажаданы плод, які можа дасьць у будучыні маральнае задаваленьне Вам, эмігрантам, і нашай Айчыне Беларусі.

„Пішучы да Вас, я маю на памяці ўсю Беларускую Эміграцыю ў вольным сьвеце. Нажаль, нічым не магу вам памагчы і апрача шчырага пажаданьня добрага здароўя і вытрываласьці ў вашай працы, больш нічога вам не перакажу.

„Яшчэ раз шчыра дзякую Вам за газэту. А з увагі надыходзячых сьвят Хрыстовага Нараджаньня і Новага году жадаю рэдакцыйным супрацоўнікам дабрага здароўя і добрых посьпехаў у грамадзкай працы. І яшчэ Вам усім жадаю, каб не задоўгім часам наведалі Вы ўсе сваю Айчыну Беларусь".

Вельмі паважанаму Суродзічу шчыра дзякуем за ягоныя пажаданьні.

**Рэдакцыя**

**Пра Беларусь на Другім Сусьветным Кангрэсе** для вывучэньня Савецкага Саюзу і Ўсходняе Эўропы, што адбыўся ў Гарміш-Партэнкірхэн у Зах. Нямеччыне 30. IX.—4. X. 1980 г., гаварылася ў двух дакладах: праф. Шырын Акінэр, выкладчыцы Школы Моваў Лёнданскае Палітэхнікі (тэма — „Беларуская літаратура ў сучаснай Польшчы, 1956-1976 гг.") і праф. Томаса Бэрда (тэма — „Разьмеркаваньне духавенства Маскоўскае Патрыярхіі ў нерасейскіх епархіях"; у дакладзе шмат увагі было прысьвечана Беларусі).

 



# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## ЧАЦЬВЕРТАЕ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Мы, Беларусы Аўстраліі, сабраўшыся на 4-ай Сустрэчы ў Мэльбурне ад 27-га да 29-га сьнежня 1980 году, аднагалосна выказваем свой пратэст супраць патаптаньня правоў і свабодаў чалавека каляніяльнай савецкай уладай.

Мы поўнасьцяй падтрымоўваем усе пачынаньні й захады аўстралійскага, амэрыканскага ды іншых дэмакратычных урадаў сьвету ў вабароне пагвалтаваных элемэнтарных чалавечых правоў ува ўсіх кутках сьвету.

Мы дамагаемся звальненьня з турмы беларускага іншадумца Міхася Кукабакі ды прызнаньня яму права на выезд з СССР, паколькі ён даўно ўжо зрокся савецкага грамадзянства й намагаецца адтуль выехаць.

Адначасна сьцьвярджаем, што духовы й матар'яльны дабрабыт беларускага народу залежыць поўнасьцяй ад ягонае эканамічнае й духовае свабоды.

Акупацыйны ўрад савецкае Беларусі, які падпісаўся пад гарантыяй чалавечых правоў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў ды іх нахабна патаптаў, ніколі не прадстаўляў і не прадстаўляе волі Беларускага Народу.

Мы вітаем пазытыўны працэс паяднаньня беларускіх арганізацыяў на гэтай Сустрэчы, што становіць заруку больш інтэнсыўнай помачы нашаму народу ў ягоным канчатковым змаганьні за поўнае вызваленьне.

Мэльбурн, Аўстралія
29 сьнежня 1981 г.

**Выканальны Камітэт 4-ае Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі**

## ВЯЛІКІ КРОК У ДОБРЫМ КІРУНКУ

На чацьвертай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, апрача прыроднай нам беларускай гасьціннасьці, мілых сустрэчаў, вясёлых песьняў, мастацкіх выступаў ды надта гарачае атмасфэры, зьявілася новая, даўгачаканая атмасфэра ў грамадзкім жыцьці — атмасфэра, напоўненая ўсебаковым імкненьнем да агульнае згоды.

Шмат Беларусаў у Вольным Сьвеце чакалі й чакаюць на тое, чаго мы неспадзявана дачакаліся ў Аўстраліі.

Перад самым адкрыцьцём Сустрэчы, паўдня было пасьвечана на грамадзкія нарады, у якіх узялі ўдзел дэлегаты ўсіх 13-ёх беларускіх арганізацыяў Аўстраліі.

Па прыняцьці малых зьменаў у статуце Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі (ФРБАА) усе 13 арганізацыяў сталіся сябрамі Фэдэральнае Рады ды паабяцалі мацнейшую сувязь, большае супрацоўніцтва і ўзаемную пашану.

Новаабраны Выканальны Камітэт зазначыў, што ня будзе ўмешвацца ў дзейнасьць, крытыку або спрэчкі паасобных арганізацыяў, а прыкладзе ўсе стараньні да ўзмацненьня згоды, супрацоўніцтва й пашаны між арганізацыямі.

Гэтыя добрыя дасягненьні сталіся магчымымі толькі дзякуючы вялікім стараньням кіраўнікоў і дэлегатаў усіх 13-ёх беларускіх арганізацыяў і бязупыннай працы былога Выканальнага Камітэту Фэдэральнае Рады.

Як нозаабраны старшыня Выканальнага Камітэту, дзякую ўсім арганізатарам і ўсім удзельнікам 4-ае Сустрэчы, асабліва мэльбурнскім Беларусам, за іхную мілую гасьціннасьць. Радасна было мець між нас гасьцей з Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады.

Ад імя ўсіх удзельнікаў 4-ае Сустрэчы дзякую ўсім арганізацыям і асобам што прыслалі нам свае віншаваньні й добрыя пажаданьні. Запраўды шмат пажаданага збылося.

Дай, Божа, каб нашыя імкненьні да агульнае згоды не засталіся абяцанкай, а запраўды ўкараніліся ў нашым беларускім жыцьці на чужыне.

**К. Станкевіч**
**Старшыня Вык. Камітэту ФРБАА**

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ

## ГОСЬЦІ З АМЭРЫКІ Ў СЫДНЭІ

Год 1980 прайшоў у нас даволі спакойна й неяк неўзаметку, але затое канец ягоны й пачатак 1981-га пакінулі колькі незабыўных ураджаньняў.

Перш-наперш падарожжа ў Мэльбурн на 4-ю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, спатканьні із знаёмымі, нарады, канцэрт, маёўка, гасьціны ды асабліва спатканьне й знаёмства з двума выдатнымі землякамі з Амэрыкі: генэралам др. Язэпам Сажычам і пісьменьнікам сп. Кастусём Акулам.

Нашыя замежныя госьці ў Мэльбурне былі надта занятыя, дык мы зь нецярплівасьцяй чакалі іхнага прыезду ў Сыднэй.

Першым да нас завітаў сп. К. Акула й затрымаўся ў сваіх родных сп-тва Качаноў. Наш пісьменьнік хацеў тут даведацца ня толькі пра нашых людзей, але й пабачыць аўстралійскую прыроду ды хоць крыху абставіны жыцьця, і напэўна пра ягоныя ўражаньні мы будзем чытаць у нашым друку.

Сп. Акула ласкава згадзіўся ўзяць актыўны ўдзел у укладаньні й правядзеньні калядкае радыёвае перадачы, а ў наступнай — навагодняй прачытаў урывак із свае аповесьці „Гараватка" ды ў інтэрвію расказаў аб сваёй працы ў мінулым, аб сваіх асабістых намерах ды плянах на будучыню. Цікавымі былі ягоныя меркаваньні пра будучыню Савецкага Саюзу: беларускі народ, сказаў сп. Акула, будзе мець „дасканалы шанс дапамагчы разваліць гэтую гаргарыну й вызваліцца спад Маскоўшчыны".

Генэрал др. Язэп Сажыч прыехаў да нас пасьля таго, як ён наведаў Адэляйду, і затрымаўся ў сп-тва Гагеньчыкаў. Ягоны побыт у Сыднэі быў вельмі кароткі, але ўсё-ж ён ласкава згадзіўся даць інтэрвію для беларускае навагодняе радыяпраграмы й падзяліцца з слухачамі (а слухаюць нашыя перадачы таксама й шмат хто з Украінцаў, Палякоў, Расейцаў) весткамі з жыцьця беларускіх асяродкаў у ЗША.

Генэрал др. Сажыч, як камандзер беларускіх вэтэранаў на чужыне, расказаў нам пра працу й дасягненьні былых беларускіх вайскавікоў, пра маладых амэрыканскіх вэтэранаў беларускага паходжаньня.

Усіх зацікавілі весткі пра зьезд Рэспубліканскае партыі ў Дэтройце, дзе вялікую дэманстрацыю Паняволеных Народаў пачаў малітваю Яго Праасьвяшчэнства Ўладыка Мікалай, як прадстаўнік Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Ня менш цікавымі былі й весткі пра Мадрыдзкую канфэрэнцыю ды пра рэлігійнае жыцьцё беларускіх асяродкаў у ЗША.

Беларусы Сыднэю мелі нагоду й асабіста пазнаёміцца з гасьцямі ў Беларускім Культурна-Грамадзкім Клюбе, куды сабраліся правесьці стары ды спаткаць Новы Год.

Спачатку прысутныя праслухалі беларускую радыяпраграму, якая якраз прыпала на гэты вечар ад 8:15 да 9:15 і на якой мелі інтэрвію др. Я. Сажыч і сп. К. Акула, што адразу й пазнаёміла зь імі ўдзельнікаў сьвяткаваньня.

Ужо за сталамі, пры агульнай бяседзе ,старшыня Клюбу сп. Кастусь Сіткоўскі афіцыйна прывітаў гасьцей. Хутка вытварылася прыемная свойская атмасфэра. Пілі тосты за Гасьцей, за стары год, за будучыню: прамаўлялі госьці й мясцовыя. Пасілкаваўшыся, некаторыя пачалі танцаваць, іншыя гутарылі, распытвалі гасьцей пра знаёмых, прасілі перадаць прывітаньні. Так і ня згледзелі як уцёк стары год, а наступіў Новы. З пажаданьнямі асабістага шчасьця й спорнае працы для нашага народу, людзі пачалі разыходзіцца.

Назаўтрае рана др. Сажыч пакінуў Сыднэй, а па колькіх днёх, 18 студзеня, выехаў і сп. Акула, але іхны побыт тут застанецца для нас надоўга прыемным успамінам.

**А. К-я**

## СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ У АДЭЛЯЙДЗЕ

Парахвія сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла спаткала праваслаўныя Каляды супольнай поснай вячэрай у сваёй прыцаркоўнай залі. Гэты звычай ўжо ўвайшоў у нашую традыцыю.

На вячэрню 6-га студзеня зьехалася да царквы шмат парахвіянаў і гасьцей. Царква была перапоўненая. Служыў а. Аўген. Вельмі прыгожа й мэлядычна сьпяваў павялічаны царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента сп. М. Бурноса. Па заканчэньні службы Божай вернікі падыходзілі пад мірапамазаньне ды паступова ў вясёлым настроі пераходзілі ў прыцаркоўную залю, пасьвяточнаму прыбраную, застаўленую сталамі із смачнымі поснымі стравамі, якіх было ня менш за дванаццаць. Гэта — вынік працы нашых руплівых кабетаў і мужчынаў.

У куце стаяў стол зь сенам, засланы белым абрусам. На стале — куцьця (вельмі смачна прыгатаваная сп-няй Н. Яновіч), а навокала куцьці гарэлі сьвечкі. Побач з куцьцёй зігцела прыгажуня-ялінка, пад якой таямніча ляжала мноства падарункаў.

Павячэраўшы ды красьпяваўшы калядкі, заля радасна й гучна сустрэла Дзеда Мароза. Дзеці падыходзілі да Дзеда размаўлялі зь ім, некаторыя дэклямавалі вершы, даставалі падарункі ды імкліва беглі да таты й мамы пахваліцца. Часам было неспадзеўкай, калі Дзед Мароз выклікаў дарослых, як прыкладам Анну й Янку Ролсанаў. Неспадзеўкай было й для нашага дарагога гасьця з Амэрыкі др. Я. Сажыча, калі Дзед Мароз паклікаў яго, каб перадаць яму падарунак. Сп. К. Станкевіч прывітаў д-ра Сажыча, пазнаёміў з прысутнымі, пажадаў яму вясёлага побыту ў Аўстраліі ды шчасьлівага звароту дадому. Др. Сажыч падзякаваў за цёплае прыняцьцё й падарунак ды перадаў падарунак Беларусам Паўдзённай Аўстраліі, які прывёз з Амэрыкі. У прамове зазначыў, што хоць у Адэляйдзе й няма шмат інтэлігенцыі, але ёсьць добрыя адданыя грамадзкія працаўнікі, бо ўсё беларускае жыцьцё тут вельмі добра арганізаванае й стаіць на належнай вышыні. Далей прамоўца зазначыў, што ён упяршыню бярэ ўдзел у такой супольнай куцьці ды што яму ўсё гэта вельмі спадабалася.

Сьвяты вечар скончыўся позна. Назаўтрае раніцою, на першы дзень Калядаў, у царкву зыйшлася вялікая колькасьць вернікаў на сьвятую Літургію, якую служыў а. Аўген. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам рэгента сп. М. Бурноса. Па заканчэньні багаслужбы а. Аўген прачытаў пастырскае пасланьне Найпачасьнейшага Мітрапаліта Андрэя ды павіншаваў усіх з Раством Хрыстовым, пажадаў вясёлых сьвятаў, здароўя й шчасьця.

**Янка Яр**

### СПАТКАЛІ НОВЫ ГОД

Беларуская Парахвія й Беларускае Аб'еднаньне ў Адэляйдзе, шануючы традыцыю, спаткалі Новы Год старога стылю ў аўторак 13 студзеня. З гэтае нагоды быў наладжаны вялікі баль, які адбыўся ў польскай залі ймя Капэрніка з удзелам каля 350 асобаў.

Аркестра „Аўра" выдатна грала народныя й мадэрныя танцы. Нашыя руплівыя кабеты падрыхтавалі багаты буфэт. Была разыграная лятарэя — дзевяць фантаў, ахвяраваных дабразычлівымі Беларусамі. Прыемнай неспадзеўкай прысутным былі „Лявоніха" й „Крыжачок", выкананыя чатырма парамі маладых беларускіх танцораў у нацыянальнай вопратцы пад кіраўніцтвам нашага выдатнага кіраўніка народных песьняў і танцаў сп. М. Бурноса.

А 12-й гадзіне ночы быў узьняты тост за Новы Год. Сп. К. Станкевіч павіншаваў усіх з Новым Годам. Людзі пачалі шукаць адзін аднаго, хто родных, хто знаёмых, абдымаліся, цалаваліся — гэтак, як гэта робіцца паводля старога звычаю. Неўзабаве грымнула аркестра, стала йшчэ весялей, уся публіка пусьцілася ў танцы і ў вельмі вясёлым настроі бавіліся аж да першай гадзіны ночы.

З удзячнасьцяй трэба адзначыць удзел у сьвяткаваньні сп-тва Грушаў, што адмыслова прыехалі на баль з Мэльбурну за 700 кілямэтраў. Сп-тву Грушам Беларусы Адэляйды наладзілі 14-га студзеня провады ў прыцаркоўнай залі. Зыйшлося шмат сяброў і знаёмых ды каля чатырох гадзінаў гутарылі, сьпявалі, а хто й танцаваў, пасьля чаго разьвіталіся, каб пачаць яшчэ адзін год жыцьця й працы.

**Янка Яр**

# СПАДЧЫНА БАЦЬКОЎ: "АГЛЕДЗІНЫ"

**(Працяг зь 1-ай бач.)**

**„Ад чаго адмаўляцца?"**

„Каб сябе чалавекам адчуваць" (а ў шырэйшым купалаўскім пляне — „людзьмі звацца", нацыяй быць), трэба адчуць сябе спадкаёмцамі культурнае й духовае спадчыны бацькоў: адкапаць гэтую спадчыну, пазнаць і ўсьведаміць яе, спасьцігнуць ейнае значаньне й прызначэньне. У ёй бо захаваны зьмест купалаўскае „Старонкі Роднае", у ёй цудадзенная моц кветкі купальскае папараці. Да гэткага пазнаньня — да самапазнаньня, а праз яго да самасьцьверджаньня — кіруецца сяньня беларуская літаратура ў сваіх лепшых творах, літаратурная крытыка ў сваіх больш уніклівых прадстаўніках, беларускае мастацтва, моваведа, гістарыяграфія ў сваіх сумленных тварцох і дасьледніках.

Аналізуючы творчасьць Васіля Быкава, Алесь Адамовіч, адзін з найбольш цікавых сучасных літаратурных крытыкаў, адзначае ў Быкава ўзмацненьне з кажнай аповесьцяй увагі да „буйнага нацыянальнага тыпу". Пры гэтым Алесь Адамовіч, і ад сябе і, як выглядае, ад Быкава, ставіць цэнтральнае пытаньне: „А што мы, хто мы ў гэтым вірлівым сьвеце? За што трымацца, ад чаго адмаўляцца, каб служыць дабру, сьвятлу, а не чаму-небудзь іншаму?" („ЛіМ", 4. IV.80)

Заява аб праве на адмову — гэта й ёсьць адзін з выяваў таго „'ўнутранага' ўзрыву", маральнага выбуху: каб ня быць „гнідаю, чкая ўсяго баіцца". Стаўленьне пытаньня „ад чаго адмаўляцца?" — прынцыпова важная маральная пастава. Бяз гэтага ня можа быць шляху й да таго збаўленнага „за што трымацца?"

Праз адмаўленьне да сьцьверджаньня. Гэты шлях да дадатнага праз адкіданьне адмоўнага абумоўлены тымі напластаваньнямі хвальшу, што засьцілі сьвет ды прытупілі здольнасьць разумець існасьць навакольля ды сябе самых.

Ад чаго мы сяньня павінны адмаўляцца, робячы агледзіны спадчыны бацькоў? Паслухайма тых, хто адважыўся выказацца на гэтую тэму.

Адным зь першых закрануў гэтае пытаньне — і то на высокім арганізацыйным форуме — старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Пятрусь Броўка. На чацьвертым пісьменьніцкім пленуме ў студзені 1962 году, гаворачы пра Купалаву й Коласаву літаратурную спадчыну, Броўка сьцьвердзіў, што на „вялікай частцы" твораў Купалы савецкага часу „ляжыць непатрэбны прывесак". Колас, казаў Броўка, яшчэ пры жыцьці пасьпеў перагледзець свае творы сам (наколькі гэткі перагляд быў магчымы — Колас памёр 13 жнівеня 1956 году — пытаньне адчыненае), але вось Купалава творчасьць засталася неперагледжанай. „І цяпер, — казаў Броўка, — трэба думаць, што рабіць". „Мне здаецца, — выказваў ён сваё меркаваньне, — што з тых твораў, у канцы якіх словы 'вялікі Сталін' былі проста прычэпленыя, як віза для друку, словы гэтыя неабходна зьняць... Янка Купала, калі-б ён жыў, з радасьцю зрабіў-бы гэта сам сёньня". („ЛіМ", 2.11.62)

Справа ачышчэньня спадчыны ад „непатрэбных прывескаў" і „візаў для друку" — гэта ня толькі пытаньне творчасьці Купалы й Коласа. І ня толькі сталінскіх часоў. Гэта праблема ўсяго творчага й ацэначнага працэсу, праблема псыхалёгіі й маральнае атмасфэры савецкае сацрэалістычнае творчасьці.

Зрабіць агледзіны спадчыны бацькоў сталінскага трыццацігодзьдзя, пэўна-ж, ня поле прапалоць: павырываў „вялікага Сталіна" з павершаваных разораў і — калі ласка! — загон паэзіі чысты. За „вялікім-жа Сталінам" — цэлы сьвет жудасьцяў ляжыць, неапісаны й недасьледаваны. Багаты для пісьменьнікаў, сацыялёгаў і гісторыкаў на сюжэты й тэмы, на выявы змрочных закуткаў людзкое душы, ён мусіў-бы прыцягнуць да сябе ўвагу дасьледнікаў у моц пасьлядоўнага тарнаваньня прынцыпу — і маральнага забавязаньня перад памерлымі: „Ніхто не забыты, нічога не забыта!" Хоць у краі Парадоксаў цяжка спадзявацца на пасьлядоўнасьць ...

**Літаратурная Хатынь Беларусі**

Што хаваецца за „непатрэбным прывескам" „вялікі Сталін", сказалі — калі пра гэта можна было гаварыць зь меншай рызыкай — тыя, што гэны „прывесак" перажылі.

Сьветлая й пакутлівая памяць Купалы й Якуба Коласа вымагае сяньня, напярэдадні іхнага стагадовага юбілею, удумацца ў гэныя сьветчаньні — перш-наперш задакумэнтаваць іх, як належыцца — асэнсаваць увесь іхны трагізм зь ня меншаю інтэнсыўнасьцяй, зь якою дакумэнтуецца й асэнсоўваецца апошняя вайна на Беларусі. Вайна трывала чатыры гады, сталіншчына — трыццаць. Прапорцыя адказнасьці Гітлера й Сталіна за сьмерць кажнага чацьвертага жыхара Беларусі не разгледжаная ды не ўстаноўленая йшчэ.

**Іван Мележ**, робячы на пленуме Саюзу пісьменьнікаў Беларусі ў 1969 годзе агляд беларускае літаратуры да 100-годзьдзя ад нараджэньня заснавальніка савецкае сыстэмы, Леніна, ня мог не закрануць, хоць мімабегам і апалягетычна, „змрочныя зьявы" сталіншчыны: „Трыццатыя гады, — нагадаў Мележ, — прынесьлі ў нашае жыцьцё і многа горкага трагічнага". („ЛіМ", 21.XI. 69)

**Міхась Лынькоў**, падводзячы балянс беларускае літаратуры да 50-годзьдзя БССР, пісаў у кнізе „Летапіс эпохі" (Мінск, 1968, бб. 86-87) пра „часы панаваньня культу асобы": „Атмасфэра падазронасьці, недавер'я да чалавека, злосных паклёпаў, беспадстаўных абгавораў і абвінавачаньня прывяла да рэпрэсіяў, да гібелі такіх пісьменьнікаў, як Ц. Гартны, М. Чарот, М. Зарэцці, А. Дудар, П. Галавач, А. Вольны, С. Баранавых, Я. Нёманскі, У. Галубок, У. Хадыка, Т. Кляшторны, З. Аксельрод, Я. Бранштэйн, І. Харык, Ю. Таўбін і інш.".

**Якуб Колас** казаў Юльяну Пшыркову яшчэ на пачатку 1940 году пра тых самых людзей, што й пасьля Міхась Лынькоў, толькі што Пшыркову, як і іншым, спатрэбілася больш за чверць стагодзьдзя, каб падаць да публічнага ведама Коласава выказваньне: „Я многіх асабіста ведаў, — казаў Колас, — гэта былі чэсныя людзі, добрыя пісьменьнікі і навуковыя работнікі. Тут дзейнічала злая рука, намагаючыся вынішчыць усё жывое, здаровае і здольнае мысьліць". („Полымя", 1967, № 6, б. 201)

**Максім Лужанін** на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі (1966 год) у дакладзе пра паэзію гаварыў пра „зварот у паэтычны строй", зварот пасьмяротны або перадсьмяротны, некаторых ахвяраў „горкага, трагічнага" часу, пра які ў 1969 годзе згадваў і Мележ пад ленінскае стагодзьдзе. Параўнаньне згаданых Лужанінам прозьвішчаў з вышэй паданым пералікам прозьвішчаў у Лынькова дадае яшчэ й гэткія: Язэп Пушча, Зьмітрок Астапенка, Андрэй Александровіч, Сяргей Дарожны, Міхась Багун, Валеры Маракоў.

Вось яна — літаратурная Хатынь Беларусі, над якою павінны былі-б званіць таксама хаўтурныя званы народнае Памяці. Павінен быць устаноўлены поўны сьпіс прозьвішчаў Літаратурнае Хатыні ды сьцьверджана, колькі і зь іх загінула ад Гітлера, а колькі—ад Сталіна. Гэта да ўсіх іх таксама датычыць і ад імя ўсіх іх таксама грымяць словы з напісу на мэмарыяльным вянку Хатыні, складзенага Нілам Гілевічам, сучасным першым сакратаром пісьменьніцкага Саюзу Беларусі: „Людзі добрыя, помніце! Мы любілі жыцьцё, і Радзіму, і вас, дарагія... Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасьць і сілу ...".

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

 

**З друку выйшаў чародны нумар беларусаведнага часапісу**
**БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

## З А П І С Ы, кн. 16

У кнізе артыкулы, зацемкі, ілюстрацыі пра новыя дасьледныя адкрыцьці й архіўныя знахадкі: дрэварыты настаўніка А. Дюрэра ў выданьнях Ф. Скарыны, акрастыхі зь імём Скарыны ў ягоных акафістах, тры выданьні Трэцяга Статуту ВКЛ, капітан Джон Сьміт на землях Беларусі, паходжаньне роду Дастаеўскіх, амэрыканская дапамога Беларусі па Першай Сусьветнай вайне. Успаміны настаўнікаў пра пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску й пра беларускія школы ў Латвіі. Багаты аддзел рэцэньзіяў.

Цана кнігі зь перасылкай — 10.00 даляраў.

Выпісваць на адрыс:

Byelorussian Institute of Arts and Sciences
3441 Tibbett Avenue. Bronx, N. Y. 10463 USA

## САКРАТ ЯНОВІЧ У ЛЁНДАНЕ

У нядзелю 7 сьнежня ў памешканьні Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане адбыўся аўтарскі вечар ведамага беларускага пісьменьніка зь Беластоку Сакрата Яновіча. Прыезд аўтара кніжак „Загоны" й „Сярэбраны яздок" выклікаў вялікае зацікаўленьне сярод усіх, хто цікавіцца разьвіцьцём беларускай літаратуры, і таму на вечар сабралася вялікая колькасьць людзей — Беларусаў ды іншых, — пераважна з Ангельшчыны, але былі й такія, што прыехалі спэцыяльна зь Нямеччыны, Францыі ды навет з Амэрыкі.

Пасьля таго, як старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк прывітаў гасьця ад імя беларускага грамадзтва ў Ангельшчыне, дырэктар бібліятэкі Ф. Скарыны а. А. Надсон пазнаёміў прысутных з асобай Сакрата Яновіча, як выдатнага пісьменьніка, культурнага дзеяча, які шмат робіць для разьвіцьця беларускай літаратуры на Беласточчыне, і як прапагатара беларускай літаратуры сярод польскага грамадзтва.

Тады узяў слова сам Сакрат Яновіч. Ён гаварыў проста й займальна пра сваё маленства ў родных Крынках ,пра зараджэньне й рост ягонай нацыянальнай сьведамасьці, пра здабываньне асьветы, пра працу ў газэце „Ніва" ў першых гадох ейнага йснаваньня, але найбольш пра сваю пісьменьніцкую дзейнасьць. Свой расказ ён суправаджаў чытаньнем сваіх апавяданьняў і цудоўных мініятураў, якія сёньня шмат хто ўжо заве „сакраткамі" і якія прынесьлі заслужаную славу аўтару ня толькі сярод беларускіх чытачоў, але і ў Польшчы (ужо выйшлі тры кнігі Яновіча ў перакладзе ў польскую мову). Пра сваю творчасьць наагул ён сказаў, што адчувае патрэбу пісаць, бо ўважае, што мае сказаць чытачу нешта адзінае й непаўторнае, выказаць свой спосаб бачаньня сьвету, чаго іншыя за яго зрабіць ня могуць. Падзяліўся таксама з слухачамі сваймі плянамі на будучыню, упаасобку задумаю напісаць драму пра Браніслава Тарашкевіча. Уканцы ён каротка спыніўся на беларускім літаратурным жыцьці на Беласточчыне ды пэрспэктывах разьвіцьця яго.

Вечар закончыўся сьціплым прыняцьцём, у часе якога прысутныя мелі нагоду пазнаёміцца асабіста зь пісьменьнікам ды пагутарыць з ім.

З нагоды вечару стараньнямі бібліятэкі Ф. Скарыны была наладжаная выстаўка кнігаў Сакрата Яновіча, ягоных журналістычных артыкулаў і нарысаў, а таксама крытычных нарысаў аб ягонай творчасьці.

Сакрат Яновіч прабыў у Ангельшчыне тры тыдні, у часе якіх меў нагоду сустрэцца з рознымі прадстаўнікамі беларускага грамадзтва й ангельскага культурнага сьвету.

**А. З.**

## ЯШЧЭ АБ „ДЭМАНСТРАЦЫІ НЯПІСЬМЕННАСЬЦІ"

Мы павінны быць удзячнымі Ст. за кароценькую зацемку пад вышэй пададзеным загалоўкам у газэце „Беларус" № 276 за красавік 1980 году. Зусім зразумелае абурэньне Ўладзімера Юрэвіча ў газэце „Літаратура і Мастацтва" з прычыны „дэманстрацыі няпісьменнасьці, калі ня трэблівасьці да беларускай мовы арганізатараў выстаўкі твораў мастакоў у менскім Палацы Мастацтваў".

Ст. піша: „Вось супраць чаго павінны мы ў замежжы энэргічна й усякімі спосабамі змагацца й тым самым выдатна памагаць нашым суродзічам у паняволенай бацькаўшчыне".

Зусім згаджаюся з аўтарам зацемкі, хачу аднак ягоны заклік пашырыць. Змагацца трэба таксама й з тымі, якія дэманструюць сваю няпісьменнасьць, поўную абыякавасьць і сьвядомую неахайнасьць у дачыненьні да беларускае мовы вось тут у нас, у замежжы. Зь імі таксама мы павінны ня толькі змагацца, але іх кляйміць, не зважаючы на тыя ці іншыя становішчы ці годнасьці, якія яны займаюць ці маюць. Калі мы будзем маўчаць, дык гэта будзе крывадушнасьцяй — бачым дрэннае там, на Бацькаўшчыне, але ня хочам яшчэ горшых рэчаў заўважаць вось тут, сярод нас, у замежжы. Маю тут наўвеце два ўнікаты, якія мне нейкім цудам удалося дастаць. Аўстралія знаходзіцца далёка ад нашых культурных цэнтраў — ЗША й Ангельшчыны — таму друкаванае слова даходзіць сюды часта спозьнена, або не даходзіць зусім.

Першы ўнікат няпісьменнасьці — гэта пераклад на беларускую мову магістэрскае працы „сьвяшчэньніка" (чаму-ж не сьвятара?) М. Лапіцкага. Пераклад аж кішыць ад няпісьменнасьці, яе поўна амаль на кажнай балонцы. Цытую толькі некаторыя прыклады:

„Колькасьць багамольцаў і прыхажан у гэтай царкве хутка расьлі і не маглі зі мяшчацца . . ." (б. 9; біяграфічная даведка, напісаная І. Касяком). „Прывілей" стаіць амаль побач з „прывілегіям" (52). „Шляхом навуковых досьледаў цьвёрда сьцьверлзілі . . ." (57). „Наступцы" (62) — гэта, здаецца, наступнікі, аб якіх перакладчык успамінае далей. „Прынамсе" (70); „**ня было па праву поўнага роўнаправўя**" (70); „. . . рабіў паважныя абмежаваньні **адзіна** на пэргамэнце (71); „епіскапствы" (76), але „епіскопія" (77). „З мэтаю асягнуць такі замер . . ." (79); „ахрэшчаных" (76) і „ахрысьціў" (80); „Дзімітр Івановіч" (81), але „Дзімітр Іванавіч" (88); „У абліччы такіх абставінаў . . ." (82); „скінуў . . . з займанага ім званьня" (83); „панесшы паражэньне сваіх намераў" (84); „паражэньне... на Кулікаўскім полі" (83) (павінна быць „на Куліковым полі"); „Патрыярхат дазволіў яму выконваць сьвятыя дзеяньні да тае пары, пакуль зьвернуцца паслы, якія выканалі сьведзтва" (89); „. . . ён ня думаў лёгка паддацца складу такіх умоваў" (81).

Гэтага, здаецца, і хапіла-б. Назоў працы М. Лапіцкага „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы". „З польскае на беларускую мову пераложыў Протопрэсьвіцер Сьвятаслаў Коўш".

Другі ўнікат — „Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады № 3/78. Жыве Беларусь!" Ён таксама, хоць у меншай меры, мае вельмі шмат памылак ды становіць дэманстрацыю няпісьменнасьці. Вось некаторыя характэрныя моўныя й стылістычныя „краскі":

„Такім парадкам фронт змаганьня пашырыўся, а камуністычная пагроза для рэшты сьвету, каторы сьвядома і несьвядома дагэтуль памагаў бальшавікам, значна павялічыўся" (б. 2); „Устаноўныя Граматы" (2); „Пралітарская маса" (4); „Перад жудасным тэрорам Беларускі Народ ня скаржыўся" (7); „Яны (ворагі) намагаюцца атрымаць правізарычнае зацьверджаньне вечнага панаваньня ў Беларусі" (8); „Мы трымаемся вехаў П Кангрэсу і прызнаецца БЦР зусім лягічна і разумна"; „Гасп. др. Н. Мядзейка выбраны праўна ўсіх законаў БЦР і быць Прэзыдэнтам Беларускага Народу, а не так як рэдактар піша ў сваёй газэце, самазванец, брахня, якая толькі можа быць бабская выдумка" (12); „Прайшло некалькі гадоў таму назад з таго часу, але нічога на лепшае не зьмянілася" (12).

Вось дзе клясычны прыклад няпісьменнасьці й зьдзеку над беларускай мовай.

Перакладчык працы М. Лапіцкага — С. Коўш, выпускнік Віленскай Беларускай Гімназіі; адказны за „Бюлетэнь" — мой прыяцель, „гаспадар др." Нікандар Мядзейка, які быў калісьці беларускім школьным інспэктарам. Абодвы яны жывуць у Саўт Рывэры, ЗША, дзе ёсьць людзі пісьменныя, якія добра валодаюць беларускай мовай і ў гутарцы і на пісьме.

У вабодвых выпадках я зусім сьведама не закрануў самога зьместу, зьвяртаю-ж увагу толькі на граматычныя й стылістычныя памылкі.

**А. Калодка**

### ПОЛЬСКІЯ ІНШАДУМЦЫ ПРА ФЭДЭРАЦЫЮ ЗЬ БЕЛАРУСЯЙ

Лёнданская газэта „Дэйлі Тэлеграф" ў нумары 17. XI. 1980 г. паведаміла з Варшавы пра выпадак у Любліне, які польская вайсковая газэта назвала „антысавецкім" выявам польскага „нацыяналістычнага шавінізму" ў васяродзьдзі прыхільнікаў незалежных прафсаюзаў. У паінфармаваных колах Масквы, піша „Дэйлі Тэлеграф", казалі, што польская вайсковая газэта мела наўвеце, відаць, прамовы на сходзе прыхільнікаў вольных прафсаюзаў у Любліне П-га лістапада з нагоды сьвята, што адзначалася раней у гонар здабытае Польшчай у 1980 годзе незалежнасьці.

Кажуць, што на гэным сходзе, піша „Дэйлі Тэлеграф", два прамоўцы-дысыдэнты, якія ня фігуравалі ў афіцыйнай праграме сходу, „выступілі з заклікамі за старую ідэю фэдэрацыі паміж Польшчай ды нацыянальнымі раёнамі, улучаючы Беларусь, Украіну й балтыцкія дзяржавы, што становяць цяпер частку Савецкага Саюзу". „Прамоўцы былі пасьля арыштаваныя", падае „Дэйлі Тэлеграф".

Польская-ж вайсковая газэта пісала, што гэны „антысавецкі выпадак" быў справаю групы польскіх іншадумцаў, г. зв. „Канфэдэрацыі Незалежнае Польшчы".

### ЗДАБЫЛА ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ

Галіна Швэдзюк, дачка Анастасі й Міхаіла, з гораду Лідс, Ангельшчына, скончыла ў ліпені 1980 г. Астонскі Ўнівэрсытэт у Бірмінгаме, дастаўшы ступень бакаляўра навукаў. Вывучала Галіна Швэдзюк оптыку й цяпер адбывае практыку ў гэтай галіне.

**М. Ш.**

### ШТО ЧУВАЦЬ?

**„Беларускі Сьвет"** № 8(37), 1980, як заўсёды, высокае друкарскае якасьці, зьмяшчае: матар'ялы, прысьвечаныя К. Каліноўскаму й „Мужыцкай Праўдзе", урыўкі аповесьці Васіля Быкава „Мёртвым не баліць", вершы й апавяданьне Алеся Салаўя, успаміны Васіля Сініцы аб мястэчку Лужкі на Дзісьненшчыне ды гумар.

Выдатна ўпрыгожваюць часапіс каляровыя заставіцы беларускіх арнамэнтаў, апрацаваных сп. Чаславам Будзькам.

Адрыс рэдакцыі:

Byelorussian World
N. Prusky, Editor & Publisher
1086 Forest Hills Ave., SE
Grand Rapids, Mich. 49506

**Ксёндз Язэп Зянеўскі,** пробашч касьцёла ў вёсцы Гервяты ў Астравецкім раёне Горадзенскае вобласьці, быў аштрафаваны на 50 рублёў за тое, што пры сустрэчах з вучнямі пытаўся пра іхную навуку ды ў некаторых выпадках запрашаў іх наведаць касьцёл. Паводля ўладаў, сьвятар парушыў гэтым савецкі закон, які забараняе весьці рэлігійную прапаганду вонках царквы. Данос на кс. Зянеўскага напісала настаўніца мясцовае школы Таіса Мурына, а падпісаны ён быў цэлай адміністрацыяй школы.

Падаючы пра гэты выпадак, „Хроніка Літоўскае Каталіцкае Царквы" (у 44-ым выпуску, датаваным 30. VII. 1980 г.) зазначае, што на Беларусі на каталіцкага сьвятара „глядзяць як на пракажанага, якому законам забаронена сустракацца зь людзьмі й мець зь імі дачыненьне". „Хроніка Літоўскае Каталіцкае Царквы" — неафіцыйнае самвыдавецкае выданьне.

## СУСТРЭЧА З НОВЫМІ ЭМІГРАНТАМІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

У сыботу 25-га кастрычніка ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Тароньце ЗБК наладзіла сустрэчу мясцовых суродзічаў з новымі эмігрантамі зь Беларусі. Некаторыя сябры ЗБК прыехалі на вечар з Аттавы й Кінгстану.

Інжынер-мэталюрг Даніла Барысаўскі й ягоная жонка Аляксандра прыехалі ў Канаду ўвесну сёлета. Інж. Барысаўскі даволі падрабязна расказаў пра жыцьцё ў цяперашняй Беларусі, акупаванай Маскоўшчынай. З новага, што пачулі прысутныя, важным ёсьць той факт, што галоўныя прадпрыемствы ў Беларусі, якія часта называюцца й гігантамі, як прыкладам Менскі трактарны завод, станка-будаўляны завод, ці полацкі нафтаапрацоўчы камбінат, не падлягаюць рэспубліканскім органам эканамічнага кантролю, а падпарадкоўваюцца беспасярэдня Маскве.

Іншы цікавы мамэнт: найбольш з заходніх радыёстанцыяў глушацца радыёперадачы „Свабоды" пераважна ў найбуйнейшых гарадох, а можна іх нядрэнна чуць па вёсках. Гэтае глушэньне каштуе ўладам, значыцца паняволенаму народу, „добрую капейку". Сп. інж. Д. Барысаўскі і ягоная жонка гаварылі прыгожай беларускай мовай. Яны адказалі на шмат пытаньняў прысутных. Ад ЗБК госьці атрымалі ў падарунак кнігу паэзіі Н. Арсеньневай „Між берагамі", а сп-ня А. Барысаўская падарыла гаспадаром прыгожы настольнік. Усе былі задаволеныя з гэтага цікавага вечару.

**А.**

### ДА БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**Паважаны Падпішчыкі й Чытачы!**

Газэта „Беларус" патрабуе Вашае дапамогі. Ці не знайшлося-б сярод Вас ахвотніка ці ахвотніцы дапамагчы ў рассыланьні газэты ў Канадзе, калі не па цэлай краіне, дык у паасобных правінцыях? Калі-б былі гэткія дабраахвотніцы ці дабраахвотнікі, падайце, калі ласка, свой голас.

Калі хто з Вас не дастаў „Беларуса" апошнім часам, паведамце ў рэдакцыю, каб мы маглі Вам прысlаць патрэбны(я) нумар(ы).

Справу кальпартаваньня „Беларуса" ў Канадзе, дзе апошнім часам паўсталі цяжкасьці, стараўся абладзіць сьв. пам. рэдактар Ст. Станкевіч, зварачаўся ён прыватна да сяброў з Канады — нажаль, бяз выніку. Спадзяёмся, што справа гэтая, на абладжаньне якое ў Нябожчыка ня стала жыцьцёвае сілы, не застанецца й надалей бяз увагі з боку нашых суродзічаў у Канадзе.

**Адміністрацыя газэты „Беларус"**

### П А Д З Я К А

Шчыра дзякую ўсім суродзічам і суседзям, якія аддалі апошнюю пашану сьв. пам. Маргарэце сваёй прысутнасьцяй на Ейных паховінах. Таксама складаю шчырую падзяку ўсім, хто прыслаў мне пісьмовыя спачуваньні ў страце спадарожніцы жыцьця на працягу 32 гадоў.

**А. Лашук**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у студзені 1981) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### І. ЗША

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

**Замест кветак на магілу Сьв Пам. Ст. Станкевіча:**

| | |
|---|---|
| 1. Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага | $25.00 |
| 2. Сп-ня Ніна Кіт | 20.00 |
| **Разам:** | **$45.00** |

**Падпіска й ахвяры на „Беларуса":**

| | |
|---|---|
| 1. В. Кажан | $ 20.00 |
| 2. Др. В. Жук-Грышкевіч | 20.00 |
| 3. Н. Чорпакоў | 20.00 |
| 4. М. Калядка | 20.00 |
| 5. П. Міраноўіч | 20.00 |
| 6. Н. Г. О. | 20.00 |
| 7. Н. Крайко (грошы пераслаў П. Пікулік) | 15.00 |
| 8. Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 9. Я. Крэсла | 10.00 |
| 10. В. Ярашэвіч | 10.00 |
| 11. Дж. Маля (грошы пераслала В. Рамук) | 6.50 |
| **Разам:** | **$ 171.50** |

**Пераслана прадстаўніком газэты „Беларус" у Нью Джэрзі сп. Б. Даніловічам:**

| | |
|---|---|
| 1. С. Гутырчык | $ 50.00 |
| 2. Г. Дубяга | 30.00 |
| 3. Н. Н. | 22.00 |
| 4. А. Стагановіч | 20.00 |
| 5. М. Рагалевіч | 20.00 |
| 6. В. Балтрусэвіч | 15.00 |
| 7. М. Войтанка | 10.00 |
| 8. Л. Л. | 10.00 |
| 9. Ч. Ханяўка | 10.00 |
| 10. Айцец А. Яноўскі | 10.00 |
| 11. Я. Азарка | 10.00 |
| 12. А. Сільвановіч | 10.00 |
| 13. А. Дубяга | 10.00 |
| 14. Я. Літвіненка | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 232.00** |

**Пераслана прадстаўніком газэты „Беларус" сп. Б. Даніловічам:**

| | |
|---|---|
| 1. Г. Русак | $ 50.00 |
| 2. А. Дубяга | 20.00 |
| 3. В. Сьліўка | 20.00 |
| 4. Д. Дзядовіч | 20.00 |
| 5. А. Барсук | 20.00 |
| 6. А. Субота | 20.00 |
| 7. В. Машанскі | 20.00 |
| 8. А. Балкоўскі | 10.00 |
| 9. В. Харавец | 10.00 |
| 10. М. Касьцюк | 10.00 |
| 11. Я. Місюль | 10.00 |
| 12. а. А. Махнюк | 10.00 |
| 13. М. Сільвановіч | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 230.00** |

### ІІ. АЎСТРАЛІЯ

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Я. Рольсан | **$ 23.00** |

**Ахвяры ад Беларусаў Мэльбурну:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Груша | 50.00 |
| 2. Я. Груша | 50.00 |
| 3. Я. Стасевіч | 20.00 |
| 4. М. Нікан | 10.00 |
| 5. М. Скабей | 10.00 |
| 6. Г. Шайпак | 10.00 |
| 7. А. Кукель | 10.00 |
| 8. М. Кулага | 10.00 |
| 9. П. Мікуліч | 10.00 |
| 10. Сп-ня З. Кадняк | 10.00 |
| 11. А. Калодка | 10.00 |
| 12. В. Гушча | 5.00 |
| 13. М. Шэко | 5.00 |
| 14. У. Сідлярэвіч | 5.00 |
| 15. М. Еўневіч | 5.00 |
| 16. Яшчанка | 5.00 |
| 17. М. Субач | 5.00 |
| 18. П. Гуз | 4.00 |
| 19. Я. Алехнін | 2.00 |
| 20. М. Субач | 2.00 |
| **Разам аўстралійскіх дал.** | **$ 238.00** |

**Падпіска на 1981 год:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Калодка | $ 15.00 |
| 2. П. Мікуліч | 15.00 |
| 3. В. Каралюк | 15.00 |
| 4. П. Гуз | 15.00 |
| 5. Я. Стасевіч | 15.00 |
| 6. М. Скабей | 15.00 |
| 7. М. Кулага | 15.00 |
| 8. З. Кадняк | 15.00 |
| 9. Я. Груша | 15.00 |
| 10. А. Кукель | 15.00 |
| 11. Т. Лашук | 15.00 |
| 12. Г. Шайпак | 15.00 |
| 13. М. Субач | 15.00 |
| 14. М. Нікан | 15.00 |
| Залегласьць за 1979 і 1980 гг. | $30.00 |
| Зь індывідуальнага продажу газэты | 20.00 |
| **Разам аўстрал. дал.** | **275.00** |

**Усяго разам з Мэльбурну аўстрал. дал. 513.00**

**У амэрыканскай валюце $ 601.95**

**Усяго разам з Аўстраліі ам. дал. $624.95**

(Зьбіралі ахвяры: М. Нікан і М. С.)

### ІІІ. АНГЕЛЬШЧЫНА — ЛЕНДАН:

| | |
|---|---|
| 1. М. Бароўскі | $ 23.13 |
| 2. А. Лашук | 16.19 |
| 3. М. Чаеўскі | 13.88 |
| 4. Н. Якубовіч | 4.63 |
| **Разам ам. дал.** | **57.83** |

**Усяго разам у студзені 1981 г.: $ 1,361.28**

Усім Паважаным Ахвярадаўцам і Зьбіральнікам грошай на газэту „Беларус" Рэдакцыйная Калегія й Адміністрацыя газэты складаюць шчырую падзяку за супрацоўніцтва.